# Расія расчляняе Украіну

Старонка 2.

№ 14 (851) 9 красавіка 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Сурадзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Мікалай Аўтуховіч:

# Інакш зрабіць я не мог

Старонка 3.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Трагедыя**

### 100 дзён комы

Бацькі дабіваюцца расследавання смерці іх дачкі ў сталічнай бальніцы. **Старонка 7.**



**Меркаванні**

### Аб расійскім нацызме

Піша Анатоль Сідарэвіч. **Старонка 10.**



**Кіно**

### Казка пра перавыхаваных бізнэсоўцаў

Уражанні ад закрытага паказу «Белых Росаў». **Старонка 11.**



**Футбол**

### Што супольнага ў нямецкіх метро і ультрас?

Карэспандэнт «НН» пабываў у фанаў Бундэслігі. **Старонка 15.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у чацвер. А падпісчыкі атрымліваюць газету ў сераду — глядзі **старонку 2.**

# МЗС Украіны: Расія плануе акупаваць яшчэ адну частку Украіны

Кіеў вінаваціць спецслужбы Расіі ў **мэтаскіраванай дэстабілізацыі** сітуацыі.

Масавы ўдзел грамадзян Расіі ў супрацьпраўных дзеяннях на ўсходзе і поўдні Украіны сведчыць аб намеры Крамля ажыццявіць другі этап акупацыі Украіны. Пра гэта гаворка ідзе ў заяве ўкраінскага МЗС адносна ўмяшання Расіі ва ўнутраныя справы Украіны.

«Абвастрэнне сітуацыі ў асобных гарадах усходу і поўдня Украіны інспіравана звонку і выклікана падрыўной дзейнасцю Расійскай Федэрацыі. Да ажыццяўлення правакацый прыцягнутыя групоўкі, якія кіруюцца расійскімі спецслужбамі», — заяўляюць ва ўкраінскім замежнапалітычным ведамстве.

Як адзначаюць у МЗС, дыверсійная праца суправаджаецца маштабнай прапагандысцкай кампаніяй, якая цынічна скажае факты, прымяняе шантаж і пагрозы, распаўсюджвае адкрытую хлусню і мае на мэце апраўдаць умяшанне ва ўнутраныя справы Украіны.

У прыватнасці, інфармацыяй такога характару было паведамленне аб з'яўленні «амерыканскіх спецназаўцаў» у краіне.

Адзначаецца таксама, што нагнятанне сітуацыі павінна было прывесці да кровапраліцця і сілавога супрацьстаяння, і гэтую нагоду планавалася выкарыстаць для наступнай агрэсіі.

«Наш народ не прымае і не прыме ідэі сепаратызму і фашызму, якія актыўна распаўсюджваюць правакатары з расійскіх спецслужбаў. Ідэя т.зв. «федэралізацыі» Украіны, якая навязваецца Масквой, належыць да гэтага ж шэрагу спецыяльных распрацовак. Ідзе гаворка не пра федэралізацыю, а пра «паралізацыю» нашай дзяржавы, яе эканомікі і магчымасцяў нашых грамадзян», — падкрэсліваецца ў заяве.

«Ва Украіне трэба змяніць не фармальны лад, а рэальную сутнасць размеркавання ўлады. Такая перспектыва выклікае занепакоенасць усіх імперскіх таталітарных сілаў, якія асцерагаюцца з'яўлення ва Украіне паспяховай альтэрнатывы кіраванай псеўдадэмакратыі», — адзначаюць у МЗС, падкрэсліваючы, што расійскі шавінізм не цікавяць правы ніводнага чалавека, уключна з рэальнымі патрэбамі самога расійскага народа, чыё складанае эканамічнае, сацыяльнае і дэмаграфічнае становішча выклікае справядлівую міжнародную занепакоенасць і трывогу.

**Укрінфарм**



REUTERS

Невядомыя з аўтаматамі ахоўваюць захоплены будынак СБУ ў Луганску. У гэтых людзях заўважная вайсковая выпраўка.

**СБУ затрымала байца ГРУ Расіі за арганізацыю акцый у Луганску**

5 красавіка супрацоўнікі Службы бяспекі Украіны — аналаг нашага КДБ — у пункце пропуску «Чырвоная Талоўка» (Луганская вобласць) затрымалі грамадзяніна РФ Банных Рамана Сяргеевіча.

«Банных, 1985 г.н., зарэгістраваны па адрасе в/ч 13204, якая ўваходзіць у склад Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генштаба Узброеных сілаў Расіі, непасрэдна арганізоўваў і каардынаваў з тэрыторыі РФ працу дыверсійнай групы, якая дзейнічала ва Украіне. Мэтай гэтых глыбока законспіраваных груп было звяржэнне канстытуцыйнага ладу і захоп улады, ажыццяўленне тэрарыстычных актаў, распальванне сепаратызму і дэстабілізацыя сітуацыі ва ўсходніх рэгіёнах нашай дзяржавы», — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы СБУ.

У пачатку сакавіка чатырох членаў адной з такіх груп, якая выконвала спецыяльнае заданне па арганізацыі сакрэтнай антыдзяржаўнай кампаніі на Данеччыне, — грамадзяніна РФ Негрыенку, грамадзян Украіны Чумачэнку, Іванова і Галавіна — СБУ затрымала ў Данецку за арганізацыю масавых мерапрыемстваў з мэтай звяржэння канстытуцыйнага ладу, распаўсюджванне антыдзяржаўных настрояў сярод насельніцтва, правакаванне да радыкальных дзеянняў, захоп дзяржаўных будынкаў.

Як паведамлялася раней, Негрыенка ў Данецку арганізоўваў падпольныя ячэйкі, спрабаваў прыцягнуць да супрацьпраўнай дзейнасці спецназаўцаў МУС Украіны, забяспечваў экстрэмістаў зброяй і выбухоўкамі, узгадняючы гэтыя дзеянні з Банных.

# Мэр Данецка: Сепаратысты перакрываюць газ, паляць машыны

Мэр Данецка Аляксандр Лук'янчанка заявіў, што сепаратысты перакрываюць жыхарам горада газ і падпальваюць машыны, каб пасеяць хаос.

Па словах мэра, у апошнія дні невядомыя перакрывалі газ у 14 жылых дамах, яго не атрымлівалі 482 кватэры цягам сутак. Гэта адбылося 7 красавіка ў 0:20 у Калінінскім раёне. «А 19-й гадзіне мы аднавілі забеспячэнне газам», — падкрэсліў ён.

«На жаль, асобы тых, хто ўчыніў гэтае злачынства, не высветленыя», — дадаў мэр.

«Гэта надзвычайнае становішча», — заявіў ён.

«Практычна кожную ноч гараць аўтамабілі», — заявіў Лук'янчанка. «Да мяне звяртаюцца жыхары, баючыся за сваю маёмасць», — цытуе яго «Украінская праўда».

Таксама ён расказаў, што пратэстоўцы спрабавалі захапіць грамадскі транспарт, каб ператварыць частку тралейбусаў у барыкады.

«Гэта ўвогуле непрымальна!» — упэўнены гарадскі галава Данецка.

«Я хацеў бы звярнуцца да ўсіх гараджан з заклікам не ўдзельнічаць у супрацьпраўных дзеяннях», — рэзюмаваў Лук'янчанка.

Лук'янчанка быў і застаецца верным сябрам Партыі рэгіёнаў былога прэзідэнта Віктара Януковіча. Але Лук'янчанка таксама — украінец. І не можа спакойна глядзець на тое, што творыцца ў Данбасе цяпер.

Як вядома, у Вярхоўнай Радзе зарэгістраваны законапраект аб увядзенні надзвычайнага становішча ў некалькіх абласцях.

Аднак пры ўвядзенні надзвычайнага становішча па ўсёй краіне немагчымае правядзенне выбараў. А тады Украіна застаецца без легітымна абранага прэзідэнта. Януковіч хаваецца ў Расіі, а Турчынаў — усяго толькі старшыня Вярхоўнай Рады.

На думку самага папулярнага кандыдата ў прэзідэнты Украіны Пятра Парашэнкі, зрыў прызначаных на май выбараў — галоўная мэта Расіі на сёння.

**Сяргей Гезгала**

## «Падзеі ва Украіне не нясуць прамых пагроз Беларусі». А непрамыя?

У аўторак пасяджэнне Рады бяспекі Беларусі было прысвечана падзеям ва Украіне. Там існуе пагроза расчлянення краіны.

Інфармацыя па выніках пасяджэння была скупая. «Для Беларусі па-ранейшаму сярод прыярытэтаў застаецца захаванне і далейшае развіццё палітычных, гандлёва-эканамічных і культурных сувязяў з Украінай», — паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы.

Словаў у падтрымку дзеянняў Расіі ці жальбаў пра «рускамоўнае насельніцтва» не прагучала.

«Падчас пасяджэння асабліва падкрэслівалася, што Беларусь не прэтэндуе на вядучую ролю ва ўрэгуляванні ўкраінскага канфлікту, аднак прыкладзе максімальныя намаганні для захавання і развіцця адносін з братняй крайняй-суседкай. Наша краіна зацікаўлена ва ўсталяванні на ўкраінскай тэрыторыі грамадзянскага міру, спакою і стабільнасці», — паведамляе прэс-служба.

«На пасяджэнні адзначана, што падзеі, якія адбываюцца ва Украіне, не нясуць прамых пагроз для Рэспублікі Беларусь», — адзначае прэс-служба.

Выходзіць, Рада бяспекі прызнае, што непрамыя пагрозы ёсць? Сапраўды, іх не можа не быць, калі адбываецца расчляненне суседняй краіны.

**Мікола Бугай**



**Апытанні на nn.by**

**Вы верыце ў Бога?**

| | | |
|---|---|---|
| так | 912 | 67% |
| не | 309 | 23% |
| не вызначыўся | 131 | 10% |

Усяго прагаласавала 1352.



**Дзе варта быць**

## Гурт «Ляпіс Трубяцкой»

спявае 11 красавіка на плошчы каля Каралеўскага замка ў Варшаве. Канцэрт «Салідарныя з Беларуссю» пачнецца а 19.00.

**Самае чытанае на nn.by за 2—8 красавіка**

1 Анатоль Сідарэвіч. Аб расійскім нацызме

2 Мінчукі тролілі журналістаў «НН», якія рабілі чарговую відэаапытанку

3 Справаздача аб забойствах на Майдане: планавала ФСБ, расстрэльвала «Альфа»

4 За сёння рубель здэвальваваўся на столькі ж, на колькі за папярэднія тры месяцы

5 Расейка фатаграфуецца з сапраўднымі звярамі. Як у казцы!

6 Усё пра кандыдатаў у прэзідэнты Украіны: біяграфіі, даходы, цікавыя факты

7 Лукашэнка: Правалілі ўсё, што планавалі. Мне ўжо сорамна…

8 Палітвязень Аўтуховіч выйшаў на волю: Каб не было падтрымкі, мяне б згнаілі б

9 Вясёлыя карцінкі. Украінскія фашысты захапілі цяжарных святароў РПЦ

10 ІТАР-ТАСС: «Данецкая народная рэспубліка просіць Пуціна ўвесці міратворчы кантынгент»

# Аўтуховіч: **Чыноўнікі саджаюць тых, хто іх выкрывае**

**Першае інтэрв'ю** палітвязня на волі.

Даўжэй за ваўкавыскага прадпрымальніка-таксіста Мікалая Аўтуховіча па палітычнай справе за часамі незалежнасці не сядзеў ніхто. Больш за два гады ён адбыў па першай справе, нібыта за нявыплату падаткаў. А потым пяць гадоў і два месяцы — ад званка да званка — за пяць знойдзеных пры вобшуку патронаў. Страшна ўспамінаць, але тады многія ўспрынялі той прысуд з палёгкай, бо абвінавачвалі Аўтуховіча ў тэрарызме, а пракурор Эльдар Сафараў прасіў 20 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

8 красавіка ля гродзенскай турмы Аўтуховіча чакалі яшчэ ад дванаццатай ночы. Дзяжурылі бэхадэшнікі на чале з Паўлам Севярынцам (з палітыкаў прыйшоў яшчэ Аляксандр Мілінкевіч), падцягнуліся мясцовыя журналісты і актывісты. Лідара «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча з гэтых самых варот нядаўна вызвалілі ў 6:20. Чакалі, што Аўтуховіча адпусцяць у той самы час.

Аднак хвіліны ішлі. Званы касцёлаў адбівалі раз за разам паўгадзінкі. А Аўтуховіч не выходзіў. З'явілася ўжо думка, што маглі вывезці. Зрэшты, падумалася: Аўтуховіч не той чалавек, што сядзе ў міліцэйскую машыну. Супрацоўнікі турмы прыходзілі на працу з абавязковым пакетам у руках. Нібыта адмысловы дрэс-код.

На волю Мікалая Аўтуховіча выпусцілі ў 7:55. Чорная роба. Белая ўсмешка і яшчэ нявыветраны пах турмы. Перад тым, як паехаць на кватэру сябра Вадзіма Цярлецкага, дзе палітвязня чакала мама, ён адказаў на некалькі пытанняў.



Мікалай Аўтуховіч абдымае маму ў першыя хвіліны пасля вызвалення.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: На якіх умовах Вас вызвалілі?**

**Мікалай Аўтуховіч:** Год і чатыры месяцы я не маю права выязджаць з Ваўкавыска, а таксама пастаўлены на прэвентыўны нагляд. Дома мне трэба быць ад 22 вечара да 6 раніцы.

**«НН»: Ці прапаноўвалі Вам пісаць прашэнне аб памілаванні?**

**МА:** Так, двойчы.

**«НН»: А чаму адмовіліся?**

**МА:** Не задавайце мне такія пытанні. Я не супрацоўнічаю і не іду ні на якія змовы з тымі людзьмі, якія мяне пасадзілі. Яны пра гэта ведаюць. Я ім адразу сказаў, што працаваць на гэтую ўладу не буду. Ніякіх перамоваў, ніякіх папераў.

**«НН»: Якія высновы зрабілі ў турме?**

**МА:** Зрабіў. Я раскажу потым. Не ўсё можна казаць, гэта можа нашкодзіць пэўным людзям.

**«НН»: Летам вы ўскрывалі жывот. Чаму?**

**МА:** Рабіў гэта, каб абараніць свой гонар. Інакш зрабіць было немагчыма.

**«НН»: То бок быў ціск адміністрацыі?**

**МА:** Не столькі ціск, як подласці і правакацыі. Адкрыта ніхто не ціснуў. Па справе ўскрыцця адбываліся суды, я нядаўна прысутнічаў на адным такім. Адміністрацыя турмы прысутнічала ў якасці сведкаў, хлусілі. Задаваў ім пытанні, яны супярэчылі самі сабе. Спектакль, нават не паспелі згаварыцца. Усе парушэнні, якія на мяне накладалі, былі надуманымі.

## Я не супрацоўнічаю і не іду ні на якія змовы

**«НН»: Пра што-небудзь шкадуеце, нешта зрабілі не так?**

**МА:** Шкадую маму, сям'ю. Але па-іншаму было нельга.

**«НН»: Ёсць планы на будучыню?**

**МА:** Не скажу пакуль.

**«НН»: Ці праўда, што Вы вывучылі беларускую мову?**

**МА:** Чаму не? Але баюся пакуль сказаць нешта няправільна. Папрактыкуюся крыху — і ўсё будзе добра.

**«НН»: Як да Вас ставіліся сукамернікі?**

**МА:** Сукамернікі ўсе былі няпростыя. У кожнага была канкрэтная задача. Адзін сукамернік быў участковым, вядома, дакладваў. Потым падсадзілі вельмі гарачага хлопца. Разлічвалі, што будуць канфлікты. Але мы знайшлі агульную мову, два-тры разы толькі пасварыліся. Трэці правакатар — некалькі месяцаў краў рэчы.

**«НН»: Можаце пракаментаваць свой прысуд: пяць гадоў за пяць патронаў?**

**МА:** Калі чытаць прысуд, то мне інкрымінуюць і знойдзены ў Гродне гранатамёт, а я якраз у той час, як яго знайшлі, першы раз сядзеў у турме. За пяць патронаў — гэта адміністрацыйны штраф. Тым больш, патроны былі купленыя легальна. Але ў прысудзе напісана так хітра, што адны патроны сталі віной.

**«НН»: Адчувалі падтрымку з волі?**

**МА:** Вельмі. Дзякуй усім. Я атрымаў 2292 лісты. За дзень да вызвалення прыйшлі два апошнія. Пісалі самыя розныя людзі. Знайшоў сяброў па перапісцы. Падтрымка вельмі важная. Было б нашмат цяжэй, каб не пісалі. Без падтрымкі мяне б проста згнаілі.

**«НН»: Чаму Вас не вызвалілі датэрмінова?**

**МА:** Бо не падпісаў папер аб добрых паводзінах. Неразумна падпісаць. Напішаш, а потым з цябе яшчэ паздзекуюцца. Я лічыўся злосным парушальнікам.

**«НН»: Ёсць спадзеў, што ад вас адчэпяцца ўлады?**

**МА:** Не, канечне, не. Я ім сказаў, што выходжу, іду на рынак і купляю «трывожную» сумку. Тут ніхто не застрахаваны.

**«НН»: Збіраецеся даказваць сваю невінаватасць?**

**МА**: Пастараюся нейкі час іх не нерваваць, каб паправіць сваё здароўе. Мая невінаватасць недалёка. Толькі яе трэба пакласці наверх. Мяне пасадзілі ні за што. Маёмасць забралі ні за што. З 2003 года яны мяне б'юць. Сістэма ўлады такая. Яны не хочуць самі сядзець у турме. Таму ім даводзіцца садзіць у турму тых, хто іх выкрывае. Мне давялося сабраць вялікі кампрамат на чыноўнікаў. Я рабіў тое, чым павінны былі займацца праваахоўныя органы. Нават некаторых супрацоўнікаў падатковай пасадзілі. Аднак павярнулі ўсё так, што знайшлі ў маіх словах палітыку. Таму мяне пасадзілі, а іх выпусцілі.

**«НН»: На судзе супраць Вас даваў паказанні былы Ваш супрацоўнік Ларын. Вы яму прабачылі?**

**МА**: Я не лічу такіх людзей мужыкамі. Калі ён не мужык, то пра што гаварыць... А жанчын я прабачаю ўсіх.

**«НН»: Як Вы ацэньваеце сітуацыю перад прэзідэнцкімі выбарамі?**

**МА**: А якая сітуацыя? Колькі скажуць, столькі і напішуць.

**«НН»: Пра эміграцыю не задумваецеся?**

**МА:** Не... Пакуль што не.

**«НН»: Бізнэс не думаеце аднавіць?**

**МА:** Які бізнэс? Цяпер няма бізнэсу. Дробны бізнэс, калі і працуе, дык хтосьці некаму плаціць, падманвае.

**«НН»: Першае жаданне зараз?**

**МА:** Напэўна, у ванне паляжаць.

**Гутарыў Зміцер Панкавец, Гродна**

**Аўтуховіч**

Цяпер Аўтуховічу 51 год. Прадпрымальнік з Ваўкавыска, стваральнік паспяховага бізнэсу, прыватнай службы таксовак, агулам ён правёў за кратамі сем з паловай гадоў.

Першы раз Аўтуховіча арыштавалі ў кастрычніку 2005 года, абвінаваціўшы ў нясплаце падаткаў. Тады яго асудзілі на тры з паловай года. У зняволенні Аўтуховіч трымаў працяглыя галадоўкі пратэсту. Ён быў адным з шасці палітвязняў, вызваленых пад уплывам ЗША і Еўрасаюза. Мікалай выйшаў на волю праз 2 гады і 3 месяцы — у студзені 2008.

Але на свабодзе Аўтуховічу ўдалося пабыць усяго год. Ён быў арыштаваны 8 лютага 2009 і асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы турмы за перавозку і захоўванне пяці патронаў да паляўнічай стрэльбы. Вярхоўны суд прызнаў яго вінаватым на падставе часткі 3 артыкула 295 Крымінальнага кодэкса (незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў).

Праваабаронцы прызналі Аўтуховіча палітвязнем, асуджаным за актыўную грамадскую дзейнасць і барацьбу з карупцыяй. У студзені 2012 года суд зрабіў больш жорсткімі ўмовы адбыцця пакарання, прызнаўшы Аўтуховіча «злосным парушальнікам рэжыму». Асуджанага перавялі з калоніі №5 у Івацэвічах (Брэсцкая вобласць) у гродзенскую турму №1.

Мікалай Аўтуховіч неаднаразова адмаўляўся пісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі.

**За кратамі застаецца восем палітвязняў**

Гэта экс-кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч, праваабаронца Алесь Бяляцкі, маладафронтавец Эдуард Лобаў, анархісты Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Андрэй Гайдукоў. Сёлета павінны выйсці на волю Эдуард Лобаў (снежань). Бяляцкі мае выйсці на волю 4 сакавіка 2016 года.

# У Віцебску раздаюць расійскія сцяжкі


НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

6 красавіка на Прывакзальнай плошчы ў Віцебску група невядомых асобаў распаўсюджвала сярод мясцовых аўтамабілістаў дзяржаўныя расійскія сцяжкі. Чалавек з заплечнікам прапаноўваў сімволіку суседняй дзяржавы кіроўцам, якія спыніліся на святлафоры каля трамвайнага прыпынку на вуліцы Касманаўтаў. На прамое пытанне, навошта ён уручае беларускім кіроўцам сімволіку суседняй краіны, двухметровы хлопец знакамі паказаў, што не разумее пытання, бо глуханямы.

## Два мінчукі пад наркотыкам палічылі сябе робатамі, ускрылі адзін аднаго нажамі

У ноч з 23 на 24 сакавіка ў адной з кватэр у Мінску знайшлі труп 33-гадовага мужчыны. У яго былі шматлікія нажавыя раненні. Хата была літаральна запырсканая крывёю.

У той самай кватэры знаходзіўся 34-гадовы мужчына пад наркотыкам. У яго было нажавое раненне ў жывот, але ён застаўся жывы.

Як паведамілі ў пракуратуры Мінска, на допыце падазраваны распавёў, што пасля ўжывання наркотыку ён і яго таварыш страцілі кантроль над сабой. Уяўляючы сябе робатамі, яны разграмілі кватэру, пасля залілі яе вадой. А тады паспрабавалі даведацца, як зробленыя робаты.

Адзін аказаўся робатам спраўнейшым...

**СГ**

## Лябедзька: Супраць АГП распачалі спецаперацыю

Палітык мяркуе, што Мінюст **рыхтуе ліквідацыю** Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

У лісце з Мінюста на адрас АГП сцвярджалася, што некаторыя актывісты партыі парушылі закон аб правядзенні масавых мерапрыемстваў, арганізаваўшы акцыі, што не адносіліся да выбараў мясцовых дэпутатаў.

АГП адказала, што не прымала рашэнні аб правядзенні масавых мерапрыемстваў, аднак у лісце ад 1 красавіка Мінюст абвінавачыў партыю ў парушэнні парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў. У лісце паведамляецца, што «палітычная партыя можа быць ліквідавана паводле рашэння Вярхоўнага суда за аднаразовае парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах».

Лябедзька расцаніў гэты ліст як вынясенне папярэджання дэ-факта. «Я вымушаны заявіць: тое, што адбываецца ў адносінах да АГП з пачатку гэтага года, мы кваліфікуем не інакш як спецаперацыю, накіраваную на стварэнне перашкодаў у дасягненні мэтаў нашай дзейнасці. А апошнім часам у адрас АГП прагучалі і пагрозы аб ліквідацыі партыі.

Упершыню за 20 гадоў рэжыму Лукашэнкі мы сутыкнуліся з тым, што афіцыйна зарэгістраваных кандыдатаў і іх давераных асобаў не проста брутальна затрымліваюць, а прапускаюць праз адміністратыўныя працэсы і кідаюць за краты.

Нам ясна далі зразумець, што непрымальнымі з'яўляюцца тэма персоны Аляксандра Лукашэнкі, у звязку з ёй тэма карупцыі, тэма ўкраінскага Майдану — тое, да чаго можа давесці эканамічная і сацыяльная сітуацыя і ў Беларусі. Непрымальнымі ёсць тэмы ЧС па хакеі, палітвязняў і скрадзеных беларускіх палітыкаў».

Лябедзька сказаў, што за ўсім гэтым стаіць «арганізатар усіх выбарчых кампаній у Беларусі — КДБ».

**Кірыла Хілько**

## Чарнобыльскі шлях пройдзе ў Курапатах

Апазіцыя вырашыла каардынальна памяняць маршрут традыцыйнага шэсця ў дзень гадавіны аварыі на ЧАЭС.

Сябры палічылі за патрэбнае змяніць традыцыйны маршрут на 26 красавіка (кінатэатр «Кастрычнік» — Чарнобыльская капліца на вуліцы Карастаянавай).

Арганізатары прапануюць месца збору пакінуць ранейшым — ля кінатэатра «Кастрычнік» а 12 гадзіне. Далей жа плануецца шэсце па вуліцах Сурганава і Якуба Коласа ў Курапаты.

Заяўка ў Мінгарвыканкам пададзеная 9 красавіка. Заяўнікамі выступілі Марына Хоміч, Ілля Дабратвор, Анатоль Сідарэвіч і Аляксей Янукевіч. Пасля шэсця і мітынгу ў Курапатах пройдзе талака.

**Лявон Максюта**

## Камандзір спецназа «Альфа» прызначаны намеснікам старшыні КДБ

Кіраўнік спецназа КДБ «Альфа» палкоўнік Алег Чарнышоў — гэта зусім не «бык-качок», а адзін з наймацнейшых інтэлектуальна сілавікоў.



Шмат гадоў ён займаўся праблемамі тэрарызму, узначальваў Антытэрарыстычны цэнтр, быў намеснікам начальніка Інстытута нацыянальнай бяспекі, кандыдат юрыдычных навук.

Байцы «Альфы» забяспечваюць фізічную абарону і бяспеку беларускага кіраўніцтва і высокіх замежных гасцей. У новыя абавязкі таксама ўвайшла барацьба з незаконным вывазам каштоўных металаў, матэрыяльных і гістарычных каштоўнасцяў за межы краіны.

Пры стварэнні «Альфы» перавага аддавалася афіцэрам-афганцам, вэдэвэшнікам, прафесійным спартоўцам. Цяпер вышэйшая адукацыя і служба ў войску абавязковая для кандыдатаў. Таксама ўвага надаецца здольнасці пераносіць вялікія псіхалагічныя і фізічныя нагрузкі. Узрост байцоў — 30-35 гадоў.

**ЗП**

## У Казахстане зробяць больш жорсткім пакаранне за сепаратызм

За заклікі да незаконнага парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Казахстана па праекце новага Крымінальнага кодэкса прадугледжана пакаранне да 10 гадоў пазбаўлення волі.

«Праектам Крымінальнага кодэкса ўводзіцца новы артыкул, які прадугледжвае крымінальную адказнасць за сепаратысцкую дзейнасць. Будуць прызнаныя крымінальна-каральнымі дзеянні па закліках да незаконных, канстытуцыйных зменаў тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Казахстан, дэзынтэграцыі», — распавяла ў інтэрв'ю журналістам начальнік упраўлення дэпартамента Генеральнай пракуратуры Арман Аяганава.

«Артыкул адносіцца да цяжкіх (злачынстваў) і па частцы першай прадугледжвае максімальную меру пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 7 гадоў. Калі гэтыя ж дзеянні будуць здзяйсняцца асобай з выкарыстаннем службовага становішча, то да 10 гадоў», — адзначыла яна.

Таксама яна ўдакладніла, што, паколькі інтэрнэт прыроўнены да СМІ, гэты артыкул будзе распаўсюджвацца на прапаганду і публічныя заклікі, якія адносяцца да сепаратызму.

**tengrinews.kz**

## На заводзе «БелДжы» сабралі 120 Geely LC-Cross

Купіць самы маленькі беларуска-кітайскі аўтамабіль, у якога, на думку прадстаўнікоў завода, няма аналагаў, пакуль можна толькі ў Беларусі. Чаканы попыт — да 40 машын у месяц.



З цяперашняй магутнасцю вытворчасці, 40 машын у дзень, партыю ў 120 адзінак сабралі за тры дні. Продажы ў шасці дылерскіх цэнтрах Geely, якія працуюць у краіне, стартуюць 7 красавіка, цана LC-Cross — ад 10 590 даляраў.

Наўрад ці LC-Cross зацікавіць дзяржаўныя або камерцыйныя структуры — навінка, хоць і з пяцццю дзвярыма, занадта малая, каб звацца службовай. Хутчэй за ўсё яе будуць купляць як другі аўтамабіль — для жонкі ці дзяцей.

Навінка выпускаецца ў пяці колерах — чырвоны, сіні, белы, чорны і серабрысты, у планах — лімонны і аранжавы. У аўтамабіля дзве камплектацыі: стандартная, або камфорт (кандыцыянер, літыя дыскі, поўны электрапакет, 5 дзвярэй, аўдыёсістэма з дынамікамі, 2 падушкі бяспекі), і прэстыж, куды дадалі парктронік, павялічыўшы колькасць падушак бяспекі да шасці.

**avto.ej.by**

# Смяротны прысуд скінхэду застаўся ў сіле

**Ён забіў дзяўчыну за парушэнне зэкаўскіх «паняцій», вырашыў суд.**

8 красавіка Вярхоўны суд пакінуў без зменаў вынесены 24 снежня 2013 паўторна Гомельскім абласным судом прысуд Аляксандру Грунову — забойцу гомельскай студэнткі Наталлі Емяльянчыкавай.

Дзяўчына загінула ў верасні 2012 года, ёй было нанесена больш за 100 нажавых раненняў. Забойства студэнткі Груноў учыніў праз год пасля адбыцця пакарання за жорсткае збіццё сужыцеля сваёй маці, у выніку якога той памёр.

У судзе Груноў патлумачыў, што за некаторы час да сустрэчы дзяўчына абразіла яго ў кампаніі знаёмых людзей і не папрасіла прабачэння. Гэта і стала прычынай агрэсіі.

Аляксандр Груноў быў добра знаёмы з родным братам Наталлі Емяльянчыкавай. Абодва былі заўважаныя ў скінхэдскіх рухах. Брат Емяльянчыкавай, як і Груноў, меў судзімасць. Для яго Аляксандр быў аўтарытэтам, яны падтрымлівалі кантакты і нават сябравалі пэўны час. Хутчэй за ўсё, менавіта таму і Наталля апынулася ў адной кампаніі з Аляксандрам.

Па неасцярожнасці яна моцна абразіла хлопца, назваўшы яго словам, якое для чалавека, які калісьці знаходзіўся за кратамі, крайне зневажальнае. Брат Наталлі, які меў судзімасць і добра ведаў парадкі «на зоне», патлумачыў ёй, што за такія словы трэба папрасіць прабачэння, але яна не зрабіла гэтага.

Падчас допыту Аляксандр Груноў адзначаў, што калі б Емяльянчыкава ўсё ж папрасіла прабачэння, ён бы не стаў яе забіваць.

Грунову растлумачана, што па памілаванне ён можа звярнуцца да Лукашэнкі.

Першы смяротны прысуд Грунову Гомельскі абласны суд вынес 14 чэрвеня 2013 года. 22 кастрычніка Вярхоўны суд адмяніў гэты прыгавор і накіраваў справу на новы разгляд у суд першай інстанцыі.

**БелаПАН**

## У Мінску ставяць відэаназіранне ў пад'ездах жылых дамоў

Бясплатная ўстаноўка відэакамер у пад'ездах ідзе ў межах праграмы «Бяспечны дом». Ініцыятарам выступіла група прадпрыемстваў, якія працуюць у сферы сістэм бяспекі («Будсвет дамафон-сэрвіс», «Смартэл-М», «Лазер ЕТС», «Кварц-аўта сэрвіс», «Стройсвет-ПРА»). Апошняя займецца непасрэдна ўстаноўкай відэакамер.

Рэалізацыя праграмы праходзіць у тры этапы. Першы этап уключае бясплатную замену састарэлых дамафонных сістэм. На другім этапе жыхарам даецца магчымасць індывідуальнай устаноўкі відэадамафонаў у кватэрах, а таксама дадатковых камер на лесвічнай клетцы. І, нарэшце, на трэцім этапе праводзіцца бясплатная ўстаноўка відэакамер у пад'ездах. Гэта частка праграмы праходзіць пры актыўнай падтрымцы ГУУС Мінгарвыканкама.

Відэаназіранне ставяць толькі са згоды ўсіх жыхароў або рашэннем праўлення таварыстваў уласнікаў і ЖБК.

Як паведаміла Алена Когут, бясплатнай з'яўляецца ўстаноўка відэакамер на ўваходзе ў пад'езд. Кошт устаноўкі камеры на лесвічнай клетцы складае 812 тысяч рублёў. Жыхары таксама могуць за свой кошт замовіць устаноўку дадатковых камер на паркоўках, даху, дзіцячай пляцоўцы.

**БелаПАН**



## У Лідскім раёне з'явіцца першы ў Беларусі музей вікінгаў

На беразе Нёмана ў Лідскім раёне, недалёка ад Бярозаўкі, ужо пабудаваныя сядзіба, альтанка і вежа ў сярэднявечным стылі. Яны ўзведзеныя з выкарыстаннем старадаўніх інструментаў па правілах сярэднявечнага дойлідства.

Напрыклад, дах крылі чаротам пяць месяцаў.

Наступная мэта — будаўніцтва баявой ладдзі вікінгаў даўжынёй 14 метраў.

Пакуль плошча музея займае 15 сотак. Але стваральнікі плануюць пашырыць яго і прадставіць абарончую архітэктуру таго часу, побытавыя рэчы і інструменты. А таксама стварыць сапраўдны флот вікінгаў, дзе будуць розныя тыпы караблёў.

Істотна, што матэрыялы музея будуць прэзентаваць не толькі сусветную гісторыю. Бо вікінгі паўплывалі на развіццё беларускіх земляў. Імаверна, полацкі князь Рагвалод, які прыйшоў «з-за мора» таксама быў скандынавам.

Інфраструктуру, якую стварылі арганізатары, дазваляе працаваць музею як частцы аграсядзібы. Там будуць праводзіцца фестывалі з паказам сярэднявечных касцюмаў і фаершоу.

Першыя турысты змогуць наведаць музей праз месяц.

**Мікіта Капкоў**

## Мікалай Бембель пастрыгся ў манахі



Вядомы беларускі філосаф Мікалай Бембель канчаткова сышоў у манастыр. Гэтаму папярэднічала доўгае, паўтара дзясятка гадоў, паслушніцтва ў Жыровічах каля Слоніма.

Бембель, вядомы яшчэ пад псеўданімам Зніч, у савецкі час быў дысідэнтам. Ён пісаў філасофскія трактаты і вершы.

З часам ён выбраў праваслаўную аскезу, але і ў манастыры працягвае літаратурную і навуковую дзейнасць.

4 красавіка пострыг здзейсніў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Павел. Новаму манаху было дадзена імя ў гонар свяшчэннамучаніка Іаана Рыжскага.

**СГ; інф. Church.by**

# Выбух ля КДБ у Віцебску зладзіла чэмпіёнка па мотакросе

Суд Кастрычніцкага раёна Віцебска 7 красавіка асудзіў Тацьцяну Вінакураву на 4,5 года зняволення за «незаконныя дзеянні з выбуховымі рэчывамі» і «асабліва злоснае хуліганства», учыненае ля будынка КДБ. Працэс праходзіў у закрытым рэжыме.

Выбух каля будынка УКДБ па Віцебскай вобласці на вуліцы Савецкай здарыўся 11 лістапада 2012 года, і толькі цяпер адкрыліся падрабязнасці гэтай справы.

Амаль адразу пасля выбуху з'явілася афіцыйная інфармацыя, што падазраваная ў арганізацыі выбуху — жанчына, якая носіць мужчынскае адзенне і, верагодна, захапляецца «мужчынскімі» відамі спорту.



Далікатная на выгляд Таццяна Вінакурава можа 20 разоў падцягнуцца на адной руцэ.

Паведамлялася таксама, што пад увагу праваахоўных органаў яна трапляла і раней, у прыватнасці, за хуліганства — за разбітыя вітрыны ў крамах.

Імя асуджанай упершыню прагучала 7 красавіка ў навінах АНТ. Тамсама паведамлялася, што чэмпіёнку Тацціяну Вінакураву затрымалі перад самым ад'ездам на чэмпіянат Еўропы па мотакросе. Калісьці яна была адзінай у краіне жанчынай-матагоншчыцай і дагэтуль захавала добрую спартовую форму — на судзе калегі ўспаміналі, што на адной руцэ яна падцягваецца 20 разоў.

Да затрымання па падазрэнні ў здзяйсненні выбуху каля КДБ Тацццяна Вінакурава працавала паштаркай у прыгарадзе Віцебска. Дзяржаўны абвінаваўца Алег Антоненка паведаміў, што падчас следства і ў судзе яна адмаўляла хуліганскі матыў свайго ўчынку, але тых матываў і прычын, якія прыводзіла абвінавачаная, афіцыйныя СМІ не паведамляюць.

**СМ**

# Мужа і жонку знайшлі забітымі ва ўласнай кватэры

Жанчына працавала ў Міністэрстве прыродных рэсурсаў.

Некалькі дзён да іх не маглі дазваніцца родныя. 28 сакавіка прыехалі праверыць, а яны застрэленыя. 50-гадовая гаспадыня — у грудзі, яе 52-гадовы муж — у галаву. А побач ляжала гаспадарова паляўнічая стрэльба.

«Па гэтым факце заведзена крымінальная справа. Канфіскаваныя рэчавыя доказы і іншыя атрыманыя па справе сведчанні даюць падставы меркаваць, што гібель мужа і жонкі можа быць звязана з абвастрэннем сямейна-бытавых адносінаў. Разам з тым, следчымі правяраюцца ўсе магчымыя версіі таго, што адбылося», — паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў.


MINPRIRODA.GOV.BY

Як стала вядома «Нашай Ніве», трагедыя здарылася ў сям'і супрацоўніцы Міністэрства прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя Алены Яфрэмавай.

«Так, у нас здарылася няшчасце», — пацвердзілі ў міністэрстве.

Забітая працавала начальніцай фінансавага ўпраўлення.

**Сяргей Макарэвіч**

# У выніку празмерных дыет у Рэнаты Літвінавай развілася небяспечнае захворванне

Пасля пералому нагі, які адбыўся ў Рэнаты Літвінавай у студзені, лекары дыягнаставалі ў актрысы новае захворванне — астэапароз, паведамляюць інфармагенцтвы.

Некалькі месяцаў таму з вядомай расійскай актрысай і рэжысёрам Рэнатай Літвінавай адбыўся няшчасны выпадак. Коўзаючыся на каньках, яна атрымала сур'ёзную траўму. Лекары, зрабіўшы здымак, выявілі ў Літвінавай расколіну косці і пералом галёнкаступнёвага сустава. На думку медыкаў, актрысе ў некаторай ступені пашанцавала — пералом аказаўся без зрушэння. У адваротным выпадку спатрэбілася б аперацыя.

Пра тое, што з ёй адбылося, Літвінава распавядала не надта падрабязна. Аднак атрымаўшы рэнтгенаўскія здымкі, яна тут жа выклала іх у інтэрнэт, падпісаўшы «Мне выдалі мыліцы, я проста ў захапленні».

У выніку назіранняў стала вядома, што ў Рэнаты ёсць яшчэ адзін унутраны вораг, які спрыяе калецтву падобнага роду — акторцы дыягнаставалі астэапароз (хвароба, пры якой косткі становяцца вельмі крохкімі і далікатнымі). Прычынай захворвання, якое з'явілася раптам, лекары не называюць канкрэтна, але намякаюць, што віной усяму можа быць празмернае захапленне жанчыны рознага роду дыетамі. Яна выглядае заўсёды выдатна, але ці гатовая яна заплаціць такую высокую цану за прыгажосць?



Трэба дадаць, што артыстка ўжо некалькі гадоў не есць мяса і малочныя прадукты. «Я імкнуся да дасканаласці. Вы разумееце, абжорства — адзін з самых страшных смяротных грахоў. Таму лепш усё-такі сябе часам абмяжоўваць», — заяўляе знакамітасць.

На сённяшні дзень астэапароз лічыцца адной з сур'ёзных праблем жыхароў развітых краін. Прычым у асноўным ад захворвання пакутуюць жанчыны. Сярод прычын развіцця захворвання не толькі генетычная схільнасць, але і ранняя менапаўза, злоўжыванне паленнем цыгарэт, алкагольнымі напоямі, незбалансаваная дыета.

**СГ; інф. БелТА**

# На чым пагарэў намеснік міністра лясной гаспадаркі?

Пастановай Савета міністраў першы намеснік міністра лясной гаспадаркі Фёдар Лісіца вызвалены ад займанай пасады з непрыемнай фармулёўкай.




**Фёдар Лісіца**

нарадзіўся 2 мая 1963 у Салігорску Мінскай вобласці. У 1986 скончыў лесагаспадарчы факультэт Беларускага тэхналагічнага інстытута, у 2007 — Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. У 1986—2000 працаваў ляснічым Ясковіцкага лясніцтва, дырэктарам ДЛГУ «Старобінскі лясгас». Ад 2000 — дырэктарам ДЛГУ «Старобінскі лясгас». 6 верасня 2010 пастановай Саўміна прызначаны першым намеснікам міністра лясной гаспадаркі. Вызвалены ад пасады 4 красавіка 2014.

У дакуменце за №307 ад 4 красавіка паведамляецца, што высокапастаўлены чыноўнік звольнены на падставе падпункта 1.4 пункта 1 арт. 40 закона « Аб дзяржаўнай службе» — невыкананне абмежаванняў, звязаных з дзяржаўнай службай. Фармулёўка расплывістая, аднак гучыць як прысуд для кар'еры.

На чым жа пагарэў чыноўнік, на прызначэнне якога 3 верасня 2010 года даваў згоду Лукашэнка?

Паводле афіцыйнай версіі, першы намеснік міністра жыў у службовай кватэры і меў патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоваў. У студзені 2010 з мэтай будаўніцтва жылля для супрацоўнікаў ведамства былі утвораны кааператыў. Спачатку Лісіца ад удзелу ў будаўніцтве кватэры адмовіўся. Але пазней, калі на падставе праверак КДК і Генпракуратуры з ЖБВК рознымі спосабамі «сышлі» частку членаў кааператыва, якія нібыта не мелі права «будавацца», чыноўнік усё ж напісаў заяву на сяброўства ў ЖБВК. А потым па невядомых прычынах адмовіўся ад кватэры ў гэтым доме.

Такія вось непаслядоўныя рашэнні...

Ёсць звесткі, што на пачатковым этапе праверку ў дачыненні да Лісіцы праводзіў Камітэт дзяржкантролю. Затым гэтай гісторыяй заняліся супрацоўнікі Галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС.

**Віктар Федаровіч, Naviny.by**

# Ермакова: Нацбанк забароніць крэдыты без даведкі аб прыбытках

Неафіцыйная інфармацыя пра гэта з'явілася на тым тыдні, а сёння атрымала афіцыйнае пацверджанне.

У інтэрв'ю БелТА старшыня Нацбанка Надзея Ермакова заявіла, што «дакумент ужо прыняты». Але яна яшчэ не можа сказаць дакладна, калі ён пачне дзейнічаць.

У банках лічаць, што забарона на выдачу спажывецкіх крэдытаў без даведак аб даходах можа быць абумоўленая імкненнем улады абмежаваць спажывецкі імпарт.

# 100 дзён комы

Бацькі дабіваюцца належнага расследавання смерці іх дачкі ў сталічнай бальніцы.

26-гадовая Надзея Куцэнка памерла праз 100 дзён пасля родаў. І гэта адбылося не ў правінцыі, дзе часта не хапае спецыялістаў. Маладой мамы не стала ў сталічнай бальніцы, вакол яе былі дзясяткі медыкаў. Але ўратаваць не здолелі.

«Дачка нам сама тэлефанавала, а тут няма званкоў. Я набраў яе. Адказала доктарка: дачка ў цяжкім стане — у коме, ёй зрабілі кесарава, дзіця ўратавалі. Чакалі машыну «хуткай», каб перавезці яе ў іншую бальніцу. Гэта было дзесьці ў 17 гадзін, — прыгадвае той дзень Віктар Самойлаў. — Доктарка, як пасля сказала, разгубілася. І адзначыла, што яна не адна вінаватая».

24 чэрвеня 2013 Надзея ўпала ў кому. 1 кастрычніка яна памерла. У Віктара ж пасля сямейнай трагедыі здарыўся інсульт.

### Зноў сталі бацькамі

Мы сустрэліся ў Бабруйску на кватэры ў Таццяны Куцэнкі, свекрыві Надзеі. Жанчына даглядае ўнука — зноў давялося стаць мамай. У Бабруйску жывуць і другія бабуля з дзядулем. Бацька ж працуе ў Мінску, а да сына прыязджае кожныя выхадныя.

Максім нарадзіўся на два месяцы раней за тэрмін і важыў толькі 990 грамаў. Сёння яму 9 месяцаў, і адчувае ён сябе добра.

«Сын вучыўся ў Мінску ў РТІ, Надзя — тут у медвучылішчы. А пазнаёміліся яны на адным дні нараджэння, — расказвае гісторыю знаёмства дзяцей Таццяна. — Ажаніліся ў 2006. Пераехалі ў Мінск. Іван працаваў інжынерам, Надзя медсястрой у стаматалагічным цэнтры. Моцна кахалі адно аднаго. Мы дапамаглі ім набыць кватэру. Затым яны купілі машыну. І вырашылі, што трэба дзіця нарадзіць — сем гадоў усё-ткі пражылі ў шлюбе.

Калі Надзя зацяжарыла, пачалі балець суставы — і дактары дыягнаставалі артрыт. Лячылі гарманальнымі прэпаратамі.

«Яе стан горшаў. Цяжарныя павінны дадаваць у вазе, а яна худзела. І калі ў маі пайшла ў дэкрэт, важыла ўсяго 38 кілаграмаў! Ёй цяжка было хадзіць. Увесь час задыхалася і крыху пакашлівала. У маі яна ляжала ў 7-й гарадской бальніцы. Неяк заехала да маёй дачкі (яна доктар), а тая заўважыла, што на твары ў Надзі нібыта чырвоная «матылёк» — як пры ваўчанцы. Сказалі ёй, каб папрасілася ў дактароў здаць аналізы. З гэтага ўсё і пачалося. Аналіз не пацвердзіўся, але дактары пачалі лячыць яе і ад ваўчанкі — таксама гармонамі. Ёй палепшала», — працягвае Таццяна.



22 чэрвеня яна наведала нявестку ў бальніцы. Гэта была субота. Праз два дні дзяўчына патэлефанавала і сказала, што 25-га ёй зробяць кесарава сячэнне, бо плод ужо не развіваўся. А ўвечары прыйшла страшная вестка.

### Прамарудзілі

Што ж адбылося ў бальніцы? Аднавіць карціну трагічнага дня дапамагла суседка па палаце.

«Каля 15-й гадзіне Надзея пайшла ў душ. Яна, відаць, паслізнулася і стукнулася галавой (я ў душы не была, але бачыла ў следчага фотаздымкі — усё ў плітцы, ні сіліконавага дыванка, ні ручак). Калі суседка пачула шум і зайшла, Надзя ляжала беспрытомная. Дактары прывялі яе ў прытомнасць. Яна пасля гэтага яшчэ пазваніла мужу і расказала пра здарэнне. Затым ёй стала кепска, і яе забралі ў рэанімацыю».

У 17.50 дактары вырашылі рабіць Надзеі кесарава сячэнне. У яе пачаліся сутаргі.

«З 5-й гарадской бальніцы выклікалі нейрахірурга з інструментам. Ён мусіў прасвідравацт дзве дзірачкі ў чэрапе і выпусціць кроў. Але пабаяўся гэта рабіць без магнітна-рэзананснай тамаграфіі (МРТ): было не зразумела, унутрычарапны крывацёк у яе альбо ўнутрымазгавы. МРТ у 1-й бальніцы знаходзіцца проста ў двары. Ніхто не паварушыўся, каб адвезці яе туды. Пасля ўжо дактары казалі, што МРТ было зачынена. Мы праверылі — працавала да 20 гадзін. А там медыкі сказалі нам, што маглі б і затрымацца ў такой сітуацыі. Калі б да іх звярнуліся».

«Калі раніцай мы прыехалі ў 5-ю бальніцу, доктар сказаў, што яе надта позна прывезлі да іх», — дадае Віктар.

Калі Надзея ўпала ў кому, яе маці праводзіла амаль увесь час з дачкой. Бацька прыязджаў у Мінск кожныя выхадныя. Максімка яшчэ два месяцы знаходзіўся ў бальніцы. І менавіта Таццяна звярнулася ў пракуратуру, Міністэрства аховы здароўя. Кансультавалася з медыкамі, супастаўляла. І лічыць, што Надзею не выратавалі толькі праз нясвоечасовае аказанне дапамогі, праз нядбайнасць — страцілі час, калі ёй рэальна можна было дапамагчы. А яшчэ няправільны дыязназ: ваўчанка, якой не было.

Жанчына паказвае дакументы, у якіх ледзь не па хвілінах прапісаныя дзеянні медыкаў. 15.00 — Надзея стукнулася галавой; 15.10 — 15.40 — кансіліум дактароў; 17.00 — Надзею абследаваў неўролаг; 17.50 — 17.55 — пагоршаў стан, дактары правялі кансіліум і вырашылі рабіць кесарава сячэнне; 18.10 — 18.35 — зрабілі кесарава; 19.10 — 20.20 — пашыраны кансіліум у аперацыйнай, прынята рашэнне перавезці ў іншую бальніцу для апаратыўнага лячэння; 21.05 — выкліканы рэанімабіль. «Але з улікам надзвычай цяжкага і нестабільнага стану пацыенткі выклікана дадатковая рэанімацыйная брыгада, якая прыбыла ў 22.19», — гэта з высноў камісіі Мінздароўя. Таццяна расказвае пра іншае: «Падалі кардыялагічны рэанімабіль, а ёй патрэбны быў са штучнай вентыляцыяй лёгкіх (ШВЛ). Як яго замаўлялі тады? Дыспетчар вінаваты? І чаму пасля кансіліуму амаль гадзіну чакалі, каб выклікаць рэанімабіль?»

22.50 — Надзея дастаўлена ў 5-ю гарадскую клінічную бальніцу; 23.00 — зрабілі МРТ (праз 8 гадзін пасля траўмы); 23.30 — паднялі ў аперацыйную; 2.05 — пераведзена ў аддзяленне анестэзіялогіі і рэанімацыі.

«Зрабілі адну аперацыю, другую. І ўжо тады было позна. Кроў гусла, і, як расказалі самі медыкі, яны тую кроў проста выкалупвалі з мозгу. 90 працэнтаў мозгу ў яе загінула. У такім стане яна пражыла яшчэ 100 дзён. Ніякіх шанцаў яны нам не давалі, але мы ж верылі», — са скрухай заўважае Таццяна.

**«Час быў страчаны…»**

Мы паказалі адказ з Мінздароўя гінеколагу адной з раённых бальніц, каб пачуць меркаванне спецыяліста, не заангажаванага ў гэтую гісторыю.

— Па ідэі, павінны былі адразу зрабіць МРТ. Але калі насамрэч, як напісана ў заключэнні, пасля падзення не было ні сінякоў, ні драпін — падстаў для гэтага не ўбачылі. Кожнаму МРТ рабіць жа не будуць.

Надзея, відаць, была зусім ніякая, калі ёй рабілі кесарава — ратавалі дзіця. У першую чаргу ратуюць дзіця, а не маці. Хаця ўсё залежыць, канечне, ад розных фактараў. Як разумею, яе стан быў надта цяжкі.

Прасвідраваныя дзірачкі ў чэрапе не заўсёды даюць гарантыю станоўчага выніку. Бывае, што гэта нават не залежыць ад самой гематомы — гледзячы якія цэнтры галавы закранутыя. Так, калі б гэта зрабілі раней, было больш шансаў выратаваць маму. Калі прыдзіраца, то толькі да таго, што адразу, як западозрылі пашкоджанне мозгу, не зрабілі здымак.

Апараты ШВЛ — дарагія, і яны стаяць толькі ў некаторых рэанімабілях. І калі Надзея ўжо на апараце была ў бальніцы, то яе трэба было перавозіць толькі з ШВЛ. Памылка пры замове рэанімабіля магла быць. Звычайна такая патрэба перадаецца дыспетчару — не сам доктар выклікае. Але гэта, як я бачу, не грала ролі. Час быў страчаны яшчэ раней — у першыя гадзіны.

### Дзве дзірачкі

«Перад тым, як легчы ў 1-ю гарадскую бальніцу, Надзя зрабіла паўторны аналіз на ваўчанку — зноў не выявілі. А дактары, калі яна нават была ў коме, лячылі ад ваўчанкі. Нам сказалі, што ў яе гэтай хваробай «з'едзена» ўсё — нават мозг. І калі б яна не павалілася, усё адно памерла б».

Але пасля смерці эксперты знайшлі ў Надзеі іншае захворванне — сухоты. «Калі яна ўжо ляжала ў коме, яе не адзін раз аглядаў галоўны пульманолаг краіны. Рэнтгенаскапію лёгкіх рабілі ледзьве не праз дзень. І ніхто не бачыў. Мне патлумачылі, што ваўчанка падобная з сухотамі — і іх цяжка адрозніць. Але ж два аналізы паказалі, што ваўчанкі не было. Чаму б не праверыць на сухоты? І патолагаанатам да прычыны смерці «мазгавая траўма» дапісаў яшчэ сухоты».

Па выпадку з Надзеяй Куцэнка ўжо праведзена некалькі камісій, экспертыз. Але і цяпер, праз дзевяць месяцаў пасля трагедыі, няма адназначнага адказу на пытанне: ці была віна медыкаў у смерці дзяўчыны? Следчы камітэт чакае чарговую экспертызу Міністэрства аховы здароўя, толькі пасля гэтага вырашыцца пытанне з завядзеннем крымінальнай справы.

«Я хачу, каб адказалі па законе. Я размаўляла са спецыялістам, які ў мінулым займаўся памылкамі медыкаў. І ён сказаў, калі б нейрахірург прасвідраваў дзве адтуліны — яна б цяпер была з намі. Магчыма, у інвалідным вазку», — Таццяна мае намер давесці справу да суда. Справа будзе няпростай для суддзі, устанавіць ісціну тут цяжка.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сцісла

### 15 гадоў за аднакурсніцу

Да такога тэрміну ў калоніі асудзілі забойцу 23-гадовай Ліліі з Рэчыцы. Яе цела знайшлі ў лесе ў мінулым чэрвені. Аказалася, што былы бойфрэнд хацеў вярнуць каханую. Але калі зноў атрымаў адмову, забіў дзяўчыну. Абое былі студэнтамі Мазырскага педагагічнага ўніверсітэта.

### Баскетбаліст памёр у часе матча

Падчас матча вышэйшага дывізіёна непрафесійнай баскетбольнай лігі «Нафтавік-Караван» з Гомеля і «Вегас» з Брэста памёр гулец гомельскай каманды Сяргей Максімаў. Ён паваліўся проста на пляцоўцы. Рэаніміраваць яго медыкі не змаглі. Сяргею было 36 гадоў.

### Суддзю асудзілі па поўнай

Асудзілі былога намесніка старшыні суда Кастрычніцкага раёна Магілёва Магамеда Умарава і адваката Анатоля Гоманава. Яны абвінавачваліся ў карупцыйных злачынствах. Гоманаў, па версіі следства, перадаў 2700 даляраў Умараву за вынясенне «патрэбнага» прысуду. Былы суддзя пакараны 14 гадамі калоніі з канфіскацыяй маёмасці, адвакат — на год ам абмежавання свабоды.

### Як яна магла

25-гадовая случчанка падазраецца ў забойстве свайго дзіцяці. Дзяўчына звярнулася ў бальніцу па дапамогу, а медыкі вызначылі, што яна нядаўна нарадзіла. Выявілася, што яна хавала цяжарнасць. Сына нарадзіла на гарышчы сарая, а затым жывым закапала ў двары.

**КМ**

# Самая прыгожая нямецкая біятланістка Магдалена Нойнер выйшла замуж за цесляра



Двухразовая алімпійская чэмпіёнка пабралася шлюбам з сябрам дзяцінства Ёзэфам Хольцэрам.

Цырымонія адбылася ў родным горадзе былой спартсменкі Вальгау. Падзея прайшла ў вузкім сямейным коле.

«Мы шчаслівыя. Я радая, што ў нас будзе вялікая сям'я ўжо ў найбліжэйшы час», — прыводзіць словы Нойнер *Bild*. Рэч у тым, што Магдалена знаходзіцца на сёмым месяцы цяжарнасці.

Згодна з традыцыяй, Нойнер узяла сабе прозвішча мужа. «Хай фанатаў не бянтэжыць, яны могуць называць мяне па-ранейшаму — Ленай Нойнер», — падкрэсліла, зрэшты, немка.

Нойнер стала сустракацца з Хольцэрам у 2009 годзе, але знаёмыя яны былі ўжо даўно — гэта сябар дзяцінства легендарнай біятланісткі. Яны вучыліся ў адным класе.

Нойнер была адвечнай суперніцай нашай Дар'і Домрачавай, але два гады таму немка раптоўна прыняла рашэнне скончыць кар'еру, хаця здароўе яшчэ дазваляла выступаць.

**АГ**

**Фотафакт**



**Кітаянка стала першай прыгажуняй БДУ**

У ВНУ прайшоў конкурс «Miss International BSU—2014». У ім удзельнічалі дзесяць дзяўчат з Азербайджана, Казахстана, Туркменістана, Кітая і Арменіі. Першае месца заваявала кітаянка Чжан Лэй.

# Выйшлі ўспаміны беларуса, які прышываў гузік Эйнштэйну

У выдавецтве «Лімарыус» у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» колькі тыдняў таму пабачылі свет успаміны «Маё мястэчка» Васіля Стомы (1911—1992).




Аўтар нарадзіўся ў Лужках былога Дзісенскага павета (сёння Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобласці). Падчас Другой сусветнай працаваў у беларускай адміністрацыі, таму ўлетку 1944 г. разам з маці і сястрой выехаў на эміграцыю. Праз гады побыту ў Нямеччыне Стомы выехалі ў ЗША.

А далей — звычайны лёс эмігранта, якіх дзясяткі, і нават сотні тысячаў, аселі ў другой палове XX ст. на Захадзе. Васіль Стома быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання ў штаце Нью-Джэрсі, быў сябрам Рады БНР, парафіянінам царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Нью-Брансвіку, выкладчыкам у беларускай суботняй школцы. Зарабляў на жыццё, працуючы ў шавецкай майстэрні.

Стома любіў расказваць, што аднойчы яму давялося прышываць гузік самому Альберту Эйнштэйну. Той зайшоў у майстэрню і спытаў, колькі гэта будзе каштаваць, на што майстар-беларус адказаў, што для такога чалавека ён зробіць усё бясплатна.

Ці праўдзівая гэтая гісторыя, сказаць складана. Яна магчымая, бо славуты навуковец жыў за 35 кіламетраў ад Стомавага Нью-Брансвіка, ва ўніверсітэцкім мястэчку Прынстан.

**Алег Гардзіенка**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Гаспадарская справа

Не ведаю, як на іншых ад Мінска напрамках, а ўздоўж брэсцкага некалькі тыдняў таму адбывалася незвычайная мітусня.

Па сакавіцкім лесе, яшчэ па-зімоваму засяроджаным, але ўжо трохі здзіўленым ранній, не па часе, адсутнасцю снега, соўгаліся паміж дрэвамі людзі ў зялёна-памаранчавай вопратцы з нейкімі прыладамі ў руках. Іх было шмат, вельмі шмат, абапал так званай «алімпійкі», нібыта рыхтавалася, або ўжо ішла, маштабная вайсковая аперацыя. Карціну дапаўнялі вогнішчы, шызы дым... Да таго ж, адны мужыкі. Што праўда, не жаночая справа — збіраць смецце па забруджаным лесе, зносіць да кучы і паліць сухое галлё...

«Да хакея рыхтуюцца, уся Еўропа паедзе», — вымавіў спадарожнік, сусед па лецішчы. «Мо і да хакея», — пагадзіўся я. І ўсе, хто быў у аўто, пачалі ўхваляць хакей, бо за сямнаццаць гадоў, што ездзім па брэсцкім напрамку на лецішча, гэткі ліхаманкавы аўрал назіраем упершыню. «Гэта ж трэба — такую колькасць мабілізаваць! — з захапленнем выгукнуў сусед. — Вось гэта парадак!»

Праз якіх дваццаць хвілін мы звярнулі з «алімпійкі» на Дзяржынск, а яшчэ праз колькі — закандыбалі па «сваім» лесе...

Трэба сказаць, што ў нашым лесе, на ўскрайку Налібоцкай пушчы, хаваецца ці не з дзясятак дачных таварыстваў. Ёсць і створаныя нядаўна, але ў асноўным, як наша, існуюць з мінулага стагоддзя, ад 60-х гадоў. І лес, што падступае да самай агароджы, сапраўды наш, бо тады ж, у 60-х, быў насаджаны, так бы мовіць, першапраходцамі і з цягам часу вырас, стаўся неад'емнай часткай знакамітай на ўсю беларускую гісторыю і прастору пушчы.

Які ён быў чысцюткі, наш лес, сямнаццаць гадоў таму, калі мне пашчасціла прыдбаць тут недабудаваную хату! Далёка ад горада, але іншага і не хацелася, бо ўжо тады сталічнае наваколле дыхала брудным паветрам і выпарэннямі смецця.

Сёння Мінск ззяе напамаджанай чысцінёй, прыбрана і рознакаляровае наваколле. А брудным паветрам і выпарэннямі смецця дыхаюць лясы, нябачныя з магістраляў. У тым ліку наш.

У мяне ёсць мара: хаця б адзін раз паглядзець у вочы таму, хто, нават не сцішыўшы хаду, выкідае з шыкоўнага аўто (нешыкоўныя назіраюцца тут зрэдку) поліэтыленавыя пакеты з недажаванай, ад «Лукулавых баляванняў», ежай, бутэлькі, біты посуд ці, прыпыніўшыся, хуценька цягне ў лясное кустоўе старыя газавыя пліты ды іншыя непатрэбныя рэчы... Нават у глыбокім гушчары, дзе толькі лясныя сцяжынкі, можна натрапіць на цяжкую падрапаную лядоўню ці саржавелы каркас былога «Запарожца». Мо скінуты з парашутам?

Калісьці злачынныя адносіны да роднай прыроды тлумачыліся «калгаснай», так бы мовіць, свядомасцю, народжанай савецкім ладам жыцця. Часткова так і было: да якога каму месца стан таго, што табе не належыць? Але людзі, што самі карчавалі сваё балота і садзілі свой лес, дыхалі ажыўшай спрадвечнай свядомасцю гаспадароў. Сёння гэткіх людзей засталіся адзінкі. Як і хатак з парослымі мохам дахамі... На месцы іншых узвысіліся катэджы, з-за суцэльных агароджаў даносіцца вантробны рык байцовых сабак, цяжкі рок сярод ночы ды падхопленая рэхам гучная страляніна з петардаў...

**Замест «НЕ МАЁ» парадаксальным чынам з'явілася «МАЁ»**



Не, «калгаснай» свядомасцю сённяшнія смеццевыя злачынствы не патлумачыш. Замест «НЕ МАЁ» парадаксальным, на першы погляд, чынам з'явілася «МАЁ». То бок усё, што вы лічыце створаным вамі і для вас, насамрэч маё. Усё схоплена — ваш лес, ваша паветра, ваша крынічная копанка... Я тут гаспадар! Гаспадар не толькі таго, што хаваю за высокім мураваным ці жалезным плотам, але і ўсяго, што існуе вакол.

Гаспадар жыцця.

Скуль яны ўзяліся, гэтыя «гаспадары», што змянілі дзедавы і бацькоўскія «Запарожцы» на шыкоўныя замежныя дрындулеты? Што я пабачыў бы ў іх вачах, калі б здзейснілася вышэйзгаданая мара?

Наўрад ці сорам. Спрэс пагарду і страх.

Пагарду да «негаспадароў» і страх перад «гаспадаром» вышэйшым, аж да найвышэйшага над усімі.

Гэта можа падаца дзіўным, але менавіта страхам народжаны тыя «гаспадары».

Загадае вышэйшы «гаспадар» дажэрці выкінутую ежу — дажруць.

Загадае прыбраць горы смецця — прыбяруць.

Загадае быць патрыётамі — будуць.

Загадае прадаць Айчыну — прададуць.

Бо страх заўсёды пакідае месца для бруднага ўчынку цішком.

Цішком забрудзіць.

Цішком застрэліць.

Цішком захапіць.

...Хакей, між іншым, з усёй ягонай Еўропай і астатнім светам да «вайсковай аперацыі» па ачыстцы лесу ўздоўж «алімпійкі», як аказалася, зусім не датычны. Праз колькі дзён былое Койданава, што ўжо дзесяцігоддзі забруджана прозвішчам бальшавіцкага ката, наведаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

Гаспадарская справа.

*kamerton_41@mail.ru*

# У Мінску ліквідуюць унікальны міні-заапарк

У беларускай сталіцы два заапаркі. Першы, вядомы ўсім, — у Чыжоўцы. Пра другі — міні-заапарк «Карлуша» на вуліцы Якубоўскага — многія даведаліся зусім нядаўна.



Міні-заапарк «Карлуша» неўзабаве знясуць.

### З'ехаць у сямідзённы тэрмін

Міні-заапарк «Карлуша» з велізарнай калекцыяй фазанаў, індыкоў, кур, з паўлінамі, трусамі і дзікабразамі стварыў і ўтрымліваў адзін чалавек — арнітолаг Леанід Гермацкі. Аднак у пачатку красавіка санэпідэмстанцыя Фрунзенскага раёна дала заапарку тыдзень на высяленне. Фармальная прычына — парушэнне норм, паводле якіх ад аб'ектаў, кшталту «Карлушы», да жылых дамоў мусіць быць не менш за 50 метраў. Ад «Карлушы» да найбліжэйшага панэльнага дзевяціпавярховіка — каля дванаццаці метраў.

Адміністрацыя раёна раней папярэджвала Гермацкага аб магчымым высяленні. «Прыйшла санстанцыя, людзі з папкамі, і кажуць: 12 гадоў таму вы пабудавалі аб'екты заапарку з парушэннямі санітарных норм. Дзіва! Цягам гэтых 12 гадоў мой заапарк правяралі штомесяц і ветэрынарная служба, і санстанцыя, і МНС. Былі дробныя заўвагі, кшталту жвіру падсыпаць, замяніць кармушкі. Афармленне дакументаў у мяне заўсёды было ідэальнае. Я сам узгадняў праект будаўніцтва і з «Мінскпраектам», і з райвыканкамам. Ніякіх пытанняў да забудовы не было».

### «Ад спонсараў не было адбою»

«Карлуша» фармальна адносіцца да Цэнтра дадатковага развіцця дзяцей і моладзі «Эўрыка» аддзела адукацыі Фрунзенскага райвыканкама. Аднак стварыў «Карлушу» Гермацкі сам абсалютна з нуля.

«17 гадоў таму я паставіў тут першую галубятню. Потым яна разраслася вось да гэтага міні-заапарку.

Мне пашчасціла, бо, калі я будаваў «Карлушу», ад спонсараў не было адбою. Тады яшчэ дзейнічалі падатковыя льготы для прадпрыемстваў, якія падтрымліваюць дабрачыннасць. Таму грошы неслі — толькі даведкі выдавай. Аднак праз пэўны час я звяртаўся да знаёмага банкіра, прасіў хаця б мех зерня птушкам купіць. А ён мне кажа: «Усё, скажы дзякуй прэзідэнту — льготы адмянілі. Навошта мне твае птушкі?» Вось так уся любоў да прыроды прайшла».

### «Прыходзілі тысячы людзей»

Леанід расказвае, што заапарк карыстаўся вялікай папулярнасцю ў жыхароў навакольных дамоў. Сюды вадзілі экскурсіі з суседніх школ. Праект міні-заапарку «Карлуша» нават перамог у конкурсе Мінгарыканкама.

Аднак з гады тры таму дзяржава спыніла фінансаванне «Карлушы». Я ўтрымліваў жывёл на сваю пенсію: карміў, купляў траву, пілавінне, аплачваў камунальныя паслугі».

### Салон, фабрыка ці паркінг

Леанід Гермацкі ўпэўнены, што хтосьці проста паклаў вока на зямельны надзел «Карлушы». Менавіта таму чыноўнікі і ўспомнілі і пра парушаныя нормы, і пра само існаванне заапарку.

«Камусьці спатрэбілася зямля. Да мяне прыходзілі людзі, якія хацелі пабудаваць тут і салон вясельнага адзення, і майстэрню па індывідуальным пашыве абутку», — кажа ён. Таксама ходзяць чуткі, што на месцы «Карлушы» можа з'явіцца паркінг.

З такой версіяй цяжка не пагадзіцца, ведаючы месцазнахо-джанне «Карлушы». Калі Гермацкі пачынаў ствараць свой заапарк, навакол была пустка. Аднак цяпер ад «Карлушы» 5 хвілін хады да станцыі метро «Кунцаўшчына».

### 22 скаргі

«У заапарку «Карлуша» раней праводзілі адукацыйныя гурткі для дзяцей. Аднак з цягам часу ён прыйшоў у заняпад, санітарныя ўмовы пакідаюць жадаць лепшага. Таму цяпер мы ліквідуем заапарк, выконваючы прадпісанне галоўнага санітарнага доктара Фрунзенскага раёна. Да таго ж на заапарк паступіла 22 скаргі, якія мы не можам ігнараваць. У планах развіцця ў нас прапісана стварэнне новага міні-заапарку, які будзе адпавядаць сталічнаму ўзроўню», — паведаміла намесніца дырэктара «Эўрыкі» Алена Альховая.

Падчас размовы яна таксама ўдакладніла, што ўсе 22 скаргі паступілі ад адной і той жа жанчыны. Ніхто больш на «Карлушу» не скардзіўся.

Гермацкі пра скаргі і іх аўтара ведае: «Гэтая жанчына скардзіцца на ўсё, не толькі на заапарк. Вось пампэ які жыхар у яе пад'ездзе — яна піша скаргу, патрабуе праверыць узровень радыяцыі ў доме».



Леанід Гермацкі.

На абяцанне новага заапарку Гермацкі толькі разводзіць рукамі і ўсміхаецца: «У аддзела адукацыі няма грошай на школьную крэйду! Які тут заапарк?»

### Фора па матылях

«Карлуша» выглядае сапраўдным акном у прыроду пасярод тыпавых шэрых шматпавярховікаў. Рэдкі мінак пройдзе ўздоўж агароджы, не зірнуўшы на стракатага залатога фазана ці вялізнага індыка.

«Многія дзеці, якія прыходзілі ў «Карлушу», прысвяцілі жыццё ахове птушак, сталі ветэрынарамі. Дзве дзяўчынкі яшчэ школьніцамі пісалі ў мяне навуковую працу «ПрываблІванне матылькоў у новы мікраёны шляхам азелянення міні-заапарку». — кажа Гермацкі.

Тых, хто піша, што «Карлуша» можа стаць асяродкам эпідэміі, арнітолаг называе дылетантамі: «Адразу бачна, калі птушка хварэе. Вось, бывае, прыходзіш у галубятню і бачыш: голуб кволы, пасіўны, вочы памутнелі . Тады я яго адразу ізалюю, даю лекі.

Раскажу гісторыю. Неяк у Мінску гастралявала сям'я вядомых ілюзіяністаў Кіа: Эміль і яго брат Ігар. Іаланта, жонка Ігара Кіа, прывезла з Японіі папугаяў. Аднак пакуль іх везлі ў тавацяняку, птушкі захварэлі. Кіа знайшлі мяне, і я вылечыў шасцярых з сямі папугаяў».

### Усё жыццё — птушкі

Леанід Гермацкі гаворыць, што птушкі складаюць усё яго жыццё: «У свой час жыў ва ўласнай хаце, дзе сабраў вялікую калекцыю птушак. Я шчыльна супрацоўнічаў з кінастудыямі, з тэлебачаннем. Мае птушкі зняліся ў 40 мастацкіх стужках, у навукова-папулярных фільмах. Адзін эстонскі рэжысёр зняў маіх птушак у сваім мультфільме — там яны гуляліся з лялькамі. Я таксама вялікі аматар спартовай голубагадоўлі, мае птушкі ставілі не адзін рэкорд».

Цяпер, калі заапарку больш няма, Леанід плануе прысвяціць больш часу сваім галубам, бо да галубятні чыноўнікі не маюць прэтэнзій, і яна застанецца на месцы. Ды і на адсутнасць прапаноў аб працы і супрацоўніцтве ён не скардзіцца.

Леанід ужо звольніўся з пасады кіраўніка гуртка, але да 14 красавіка ён будзе працаваць на пасадзе вартаўніка. Ён уласнаручна разбірае ўсё, што паўтара дзясятка гадоў таму сам і пабудаваў. Гермацкі кажа, што нічога не знікне дарма: знайшліся людзі, якія забяруць і агароджу, і пілавінне, і кветкі.

Раптам да Леаніда падыходзіць жанчына, якая прапануе яму 50 сотак зямлі пад Мар'інай Горкай. Гермацкі дзякуе, але кажа, што нічога не атрымаецца — прафесійна арганізаваць заапарк не такая простая справа, і толькі зямлі тут недастаткова.

Разбіраючы заапарк, Леанід выглядае бадзёрым і стрымлівае эмоцыі, нібыта ён і не шкадуе. Аднак наўрад ці яму лёгка на душы.

**Кірыла Хілько, фота аўтара**





**Па птушак з калекцыі Гермацкага выстраілася сапраўдная чарга. На фота: фазаны з калекцыі «Карлушы».**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. Паведамляйце нам пра ўсё цікавае, вартае друку. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

# Аб расійскім нацызме

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Што такое нацызм? Гэта рэакцыйная і агрэсіўная ідэалогія і практыка, уласцівая для імперскіх нацый, у якіх не было ўстойлівай традыцыі дэмакратыі. І гэта рэакцыя на гістарычнае фіяска. Такім фіяска для Нямеччыны стала капітуляцыя ў лістападзе 1918-га. Фіяска ж для Расіі, якую Сталін у 1945 годзе абвясціў вядучай нацыяй Савецкага Саюза, быў распад СССР і тое, што 14 савецкіх рэспублік сталі замежжам.

Як нямецкія нацысты амаль усе свае высілкі паклалі на адраджэнне Райха, так і іх расійскія паслядоўнікі прыкладаюць амаль усе свае намаганні, каб адрадзіць нейкае падабенства СССР.

Ведама, ёсць і адрозненні. Перш чым наладзіць выпуск знакамітых «тыграў» і «пантэраў», немцы пабудавалі найлепшыя ў Еўропе аўтадарогі і арганізавалі вытворчасць аўтамабіляў для народа (знакамітая на ўвесь свет марка *Volkswagen*). У Расіі ж паранейшаму праблема бездарожжа, ніводнага канкурэнтаздольнага цывільнага аўтамабіля, затое ёсць даволі страшныя для еўрапейцаў танкі.

Чаму я называю ідэі, якія цяпер пануюць у Расіі, нацызмам?

Нацыяналізм, у адрозненне ад шавінізму, бывае абарончы і стваральны. Без нацыяналізму не было б ані французскай, ані нямецкай, ані італьянскай, ані іншых нацый і дзяржаў.

Нагадаю, што за італьянскі трыкалор нацыяналістаў кідалі ў турмы на тэрыторыях, падуладных аўстрыйскім Габсбургам, іспанскім Бурбонам і Папу, што за нямецкі трыкалор нацыяналістаў пераследавалі ў нямецкіх жа курфюршаствах, маркграфствах і каралеўствах — амаль гэтак, як у сучаснай Беларусі за бел-чырвона-белы.

Іншая справа — шавінізм, апафеозам якога ў Францыі стала справа Альфрэда Дрэйфуса, а ў царскай Расіі — Менахема Мэндэля Бейліса.

Нацыяналізм — гэта ідэалогія любові да сваёй нацыі, стварэння сваёй дзяржавы. Нацызм — гэта іншая з’ява. Гэта ідэалогія заваёвы іншых народаў, іх падпарадкавання сабе.

Палітычны праект «рускага свету», выпрацаваны ў крамлёўскіх і калякрамлёўскіх кабінетах, — гэта форма сучаснага нацызму. Калі для Гітлера Германія была там, дзе жылі немцы, дык для расійскіх уладных колаў Расія там, дзе расійская мова.

Яны ўзялі на сябе місію абароны не толькі ўсіх этнічных расійцаў на сумежных тэрыторыях, але і ўсіх рускамоўных. Праўда, пуціністам не хапае смеласці сфармуляваць падабенства гітлераўска-гёбельсаўскага лозунга «Ein Volk, ein Reich, ein Fuhrer» (адзін народ, адна імперыя, адзін правадыр). Але гэта не так важна. Важна, што гэты лозунг спрабуюць ажыццявіць.

Уладныя колы Расіі, а таксама ідэйна блізкіх да іх камунафашыстаў, «праваслаўных талібаў», яднае з нямецкімі нацыстамі і паталагічная нянавісць да заходніх дэмакратыяў.


Як і нямецкі нацызм, спробы Расіі захапіць новыя землі скончацца вялікім горам

Як нямецкаму, гэтак і расійскаму нацызмам уласцівая агрэсіўнасць, якая нічога, апроч шкоды ўласным народам і дзяржавам, не прынесла (Германія) і не прынясе (Расія).

**P.S.** Чаму я называю асноўных славянскіх жыхароў Расіі расійцамі, расейцамі, а не рускімі? Ды таму, што само паняцце «Русь», «рускія» зарадзілася ў сучаснай Украіне. Украіна і ёсць Русь.

Ва Украіне, у Кіеве, быў цэнтр Рускай Царквы. Калі ўтварылася самастойная маскоўская мітраполія, дык новае ўтварэнне сталі называць у хрысціянскім свеце Маскоўскай Царквою. І дзяржава была маскоўская. За Іванам III Масковія стала называць сябе Руссю, Іван нават абвясціў сябе гаспадаром усяе Русі, але само слова «Русь» з часам ператварылася з Масковіі ў «Расію». І Царква афіцыйна стала Праваслаўнаю Расійскаю Царквою. Гэта Сталін зрабіў яе «рускай» і дадаў да тытула маскоўскага Патрыярха словы «і ўсяе Русі» (раней было «і ўсяе Расіі»).

Такім чынам, і Царква ў іх расійская, і дзяржава, і народ, і мова расійскія. А мы — БелаРУСЬ. Мы — белаРУСЫ. І Праваслаўная Царква ў нас калі-небудзь сапраўды будзе БелаРУСКАЯ.

**Не магу маўчаць**

## Кашмарны сон можа стаць для Беларусі явай

Піша **Віктар Ледзянеў**.

Шмат гадоў я бачыў адзін і той жа сон.

У нейкім горадзе я бягу разам з тысячамі іншых людзей... Куды — не ведаю. Бягуць старыя і маладыя, цягнуць нейкія падводы са скарбам, крычаць дзеці, адны адстаюць, іншых дарослыя бяруць на рукі і бягуць разам з імі. Раптам — успышка! Неймаверна яркая і гарачая, вопратка на спінах людзей перада мною пачынае дыміцца. Пасля сполаху ўсе спыняюцца і абарочваюцца. Над сілуэтам горада павольна вырастае атамны грыб. Я чакаю разам з усімі прыходу выбуховай хвалі, але яе няма...

Я прачынаюся, ніяк не магу зразумець: было гэта насамрэч ці не? Калі ачуняў, сну ўжо як і не было. І з кожным новым сном гэтая адаптацыя да рэальнасці становіцца ўсё даўжэйшай.

Гэты сон я неяк распавёў свайму сябру Уладзіміру Някляеву, і ён выкарыстаў яго ў сваім выдатным рамане «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без», «прысвоіўшы» сон аднаму з персанажаў рамана, у нечым падобнаму да мяне. Я б і не ўспомніў пра гэтыя жудасныя сны, калі б сёння зноў не ўбачыў іх. Усё было ўжо звыклым у сне, за выключэннем аднаго. Страшная, што знішчае ўсё, выбухная хваля ўсё ж такі прыйшла...

Доўга ляжаў без сну і глядзеў, як за акном прачынаецца дзень. І ўспомніў дэталь, якой ніколі раней у сне не было: над натоўпам людзей праляцеў з дзікім ровам самалёт з чырвонымі зоркамі на крылах.

Да мяне, нарэшце, дайшло, чым выкліканы новы кашмар. Нядаўна я пачуў аб прыбыцці новых расійскіх самалётаў у Беларусь. Днём мне гэта здалося чарговай непрадуманай акцыяй нашых уладаў, але ўначы ўбачыў увесь жах гэтай непрадуманасці. Самалёты проста так не прылятаюць. Яны для чагосьці патрэбныя. Для чаго?

У свеце неспакойна, Украіна падымаецца з калень, а «старэйшы брат» гэтага не жадае, бо зараза свабоды не мае межаў, яе не спыніш ніякім санітарным кардонам. Вось чаму самалёты з чырвонымі зоркамі праносяцца над нашымі галовамі.

Колькі разоў чуў гэты заклён: «Толькі б не было вайны!» Вядома, самалёты над галавой — гэта яшчэ не вайна. Гэта прадчуванне вайны. І што тады? Вайна Расіі з Украінай? Крым ужо расійскі, хто наступны? І, вядома ж, калі гэтыя самалёты падымуцца ў Беларусі і паляцяць бамбіць Украіну, куды накіруюць зваротны ўдар? Адказ відавочны і зразумелы — на нашы галовы. І зноў бамбасховішчы, зямлянкі, сыход у лясы, ці так? Каму гэта трэба?

Брат заўсёды абараняе брата, як у дзяцінстве мы ганарыліся сваімі старэйшымі братамі, але ніхто і ніколі не думаў, што брат можа стаць ворагам. Сёння відавочна, што гэта здараецца. Рускі падняў руку на ўкраінца. Але, на шчасце (а можа, і не), ва ўкраінцаў таксама знайшліся браты, хоць і не такія родныя.

Мне трывожна за дзяцей і ўнукаў. Яны ў чым правініліся перад «вялікім братам», што ўцягвае Беларусь у вайну?

Заўсёды добра ставіўся да выдатнай журналістыкі Савіка Шустэра яшчэ з часоў яго працы на НТВ і не здзівіўся яго інтэрв'ю з нашым прэзідэнтам. Яны старыя знаёмыя. Пытанні былі няпростымі, і галоўнае для нас гучала непрыкрыта і ў лоб: што будзе з намі, ці не станем наступнай мэтай расійскіх войскаў для абароны рускамоўнага насельніцтва? І даведаўся, што сам прэзідэнт гатовы абараняць Беларусь ад нашэсця.

Але на любой вайне гінуць і галадаюць не тыя, хто аддае загады. Гэта старажытныя палкаводцы скакалі наперадзе сваёй рыцарскай конніцы і нароўні з усімі змагаліся ў баі. Сёння звышмоцныя бункеры аберагаюць палкаводцаў нават ад атамнага ўдару, ім ёсць дзе чакаць перамогі. Толькі вось тыя ж старажытныя далі нам прыклад такой перамогі. Яны называлі яе піравай.

**Вы прасілі напісаць**

## «Жыву на 4 даляры ў дзень»

«Бывае, жыць не хочацца! Няма за што жыць!» — скардзіцца маладзечанец Мікалай Дзяковіч. Яму — 57 гадоў, інвалід 3 групы. У яго цукрыца, энцэфалапатыя, ішэмічная хвароба сэрца, артэрыяльная гіпертэнзія, траўма галавы. З такім «букетам» хвароб працаваць не будзеш.

«Да групы я працаваў на трубапракатным заводзе ў Маладзечне. А пасля мяне звольнілі па хваробе. І цяпер я не магу прайсці медкамісію нават на дворніка. Мне нічога не дазваляюць рабіць. А як жыць?»

Праўда, Мікалаю ўсё-ткі падабралі месца на прадпрыемстве таварыства інвалідаў па зроку: апрацоўваць вырабы з пластмасы. Але ён паказвае разліковы лісток за люты: адпрацавана 16 дзён (128 гадзін) і 4 дні прастою, налічана — 273 тысяч рублёў. Пенсіі ён атрымлівае 1,1 мільёна, з іх 104 тысячы заплаціў за апошні месяц за інтэрнат. На жыццё застаецца 4 даляры на дзень.

«Мне на ежу і лекі каб хоць хапала. Каб мне плацілі мільён там, дзе цяпер раблю, я б нікуды і не звяртаўся. Мільён заробку, мільён пенсіі — выжыў бы. Можа, мне 2-3 гады засталося на гэтым свеце, і так існаваць?»

**СМ**

## Старанна прадуманая катастрофа

З горыччу прачытаў артыкул у №13 «НН» пра катастрофу беларускай мовы ў Гомелі.

Тэму мовы трэба ўзнімаць увесь час! Гаворка йдзе пра сістэматычнае вынішчэнне прыгожай, ісцінна славянскай мовы, пра культурны этнацыд беларусаў. Але згадка дзяржавы і слабкі спадзеў на яе — бязглуздзіца.

Я напомню ланцужок гэтага злачыннага працэсу: юрыдычна нікчэмны «рэферэндум» наконт мовы — вынішчэнне беларускамоўных СМІ — спыненне беларускамоўнага выкладання геаграфіі і гісторыі Беларусі — ліквідацыя нармавальнага цэнтра мовы, Інстытута мовазнаўства, — «рэарганізацыя» (разумець трэба ў гімлераўскім сэнсе) літаратурных музеяў і г.д. Радыё і ТБ, разам з «СБ», цалкам перайшлі на слугаванне інтарэсам расійскага імперыялізму.

З музычнай «прадукцыі» насельніцтву прапануецца расейскамоўны кіч, часам разведзены гэткім жа англамоўным кічам.

Гэта ўсё прадуманыя дзеянні, каб сцерці нацыянальныя асаблівасці нашага народа.

**Мікалай Бусел, народны чытака і селькар (Дуброва, Светлагорскі раён)**

## З пераломам хадзі ў паліклініку. Проста для птушачкі

Сутыкнуліся з такой сітуацыяй.

Дачка (10 гадоў) зламала нагу: перелом плюсневай косткі. Наклалі гіпс на 3—4 тыдні, як і ўсім у такіх выпадках.

Але аказалася, што трэба кожныя 6 дзён ездзіць да траўматолага, каб... падаўжаць даведку аб вызваленні ад школы. Хоць гіпс раней не здымуць, косткі раней часу не зарастуць.

І вось дылема: або цягацца з малой у няблізкую паліклініку, там на мыліцах ісці на 4-ы паверх без аніякага практычнага сэнсу, або плюнуць і спадзявацца на тое, што ў школе абмяжуюцца запісам пра тое, што быў пералом.

Зайшлі да загадчыцы: яна кажа, што такое правіла і траўматолаг не мае права выдаць адну даведку на ўвесь час хваробы. Але тады чаго чыноўнікі з аховы здароўя наракаюць, што людзі занадта часта звяртаюцца ў паліклінікі?

Гэтае правіла трэба памяняць. Тут жа гаворка пра хваробу, якая раней часу не мінецца.

Хочацца, каб на гэты момант звярнуў увагу намеснік прэм’ер-міністра Тозік, які справядліва ставіць пытанне пра рэформу паліклінічнай сістэмы. Я яго, дарэчы, у гэтым падтрымліваю.

**Іван Зубрыцкі, Мінск**

# Сяўрук — з Варшавы, Волкаў — быў пад акупацыяй, Маркавец — апазіцыянер…

**Не ўсе класікі** трапілі ў «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Піша **Гары Куманецкі**.

«Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі» — грандыёзны выставачны праект, самы значны за гады незалежнасці. Ён паказвае мастацтва Беларусі як жывы і бесперапынны працэс, знітаваны з сусветным мастацтвам. Да ліпеня мы будзем мець унікальную магчымасць бачыць нацыянальныя скарбы, сабраныя разам.

### Маштабнасць і эксклюзівы

У чым значнасць выставы? Папершае, большасць экспанатаў паказваецца ўпершыню. Сярод іх — унікальныя старадрукі, кшталту пратэстанцкай «Брэсцкай Бібліі», выдадзенай Мікалаем Радзівілам Чорным, — сведчанне нашай культурнай суб'ектнасці ў часы Рэфармацыі, або «Жазла праўлення» Сімяона Полацкага 1667 года выдання.

Тут багата абразоў і артэфактаў, нават мусульманскіх і юдэйскіх, ёсць творы мастакоў з сусветнымі імёнамі. Напрыклад, «Партрэт Тамаша Зана» пэндзля Валенція Ваньковіча — адзіная прыжыццёвая выява героя-філамата і адзіны твор Ваньковіча ў Беларусі. Ёсць карціна Абрама Маневіча «Віцебск» і «Акно» Паўла Южыка, па адной карціне Марка Шагала і Хаіма Суціна. Многім экспанатам спатрэбілася грунтоўная рэстаўрацыя. Нават добра вядомыя творы са сталай экспазіцыі Мастацкага музея заззялі пановаму.

Па-другое, ніколі раней не збіралася для паказу такая маштабная экспазіцыя прадметаў мастацтва Беларусі за дзесяць стагоддзяў — ад часоў Візантыі да сучаснасці! А гэта паўтысячы твораў і артэфактаў розных эпох. У праекце ўдзельнічаюць амаль усе музеі краіны, а таксама прыватныя і карпаратыўныя калекцыі. Да выставы быў выдадзены каталог на трох мовах, падрыхтаваныя аўдыёгіды для індывідуальнага і сямейнага наведвання выставы, у рамках праекта запланаваныя канцэрты і кінапрагляды...

### Дзе Сяўрук, Волкаў і Маркавец?

І па-трэцяе — нам дэманструюць зусім новы культурны дыскурс, найноўшую версію таго, што мы мусім цаніць. Пытанні нарастаюць, калі мы, прамінӗўшы шыкоўную экспазіцыю шляхецкае культуры XIX ст., рушым далей... Чаму творчасць Язэпа Драздовіча прадстаўленая толькі адным творам «Прарок», а Марка Шагала — дзвюма карцінамі і каляровай літаграфіяй? Чаму наогул няма, напрыклад, твораў Міхася Сеўрука? Высвятляецца, таму, што ён хоць і нарадзіўся ў беларускай сям'і, але... у Варшаве! Нечаканае адкрыццё: на выставу наогул не трапілі мастакі, якія не мелі шчасця нарадзіцца ў цяперашніх межах Рэспублікі Беларусь! А гэта не толькі Сяўрук, які ўсё свядомае жыццё пражыў у Беларусі, але і, напрыклад, народныя мастакі Беларусі — Валянцін Волкаў, што напісаў славутае палатно «Мінск. 3 ліпеня 1944 г.», і Сяргей Селіханаў, скульптар, які стварыў мэмарыял у Хатыні! Дзіўна было не ўбачыць творы скульптараў Керзіна, Глебава і Бембеля, жывапісцаў Зайцава, Мазалёва і Кішчанкі, графікаў Ахола-Вало, Лось і Паплаўскага... Вось такі дзяржаўніцкі нацыяналізм арганізатараў. То бок, тыя, хто нават з Віленшчыны, Смалешчыны ці з Падляшша, — ужо болып не нашы.



**«Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі»**
Выстава дзейнічае ў Нацыянальным мастацкім музеі (вул.Леніна, 20), працягнецца да 10 ліпеня. Назва кажа сама за сябе: на выставе 500 экспанатаў, твораў беларускай культуры X—XX стагоддзяў. Многія выстаўляюцца ў нашай краіне ўпершыню. Чынны ўдзел у падрыхтоўцы ўзяў «Белгазпрамбанк».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Не трапілі ў экспазіцыю творы тых, хто жыў пад нямецкай акупацыяй: Ціхановіча, Даўгялы, Гуткоўскага, Дучыца, Шыбнёва, Звінагродскага, Каржанеўскага. Не выставілі і творы мастакоў недастаткова лаяльных да цяперашняе ўлады: нават вялікіх ужо нябожчыкаў Міхася Рагалевіча ды Віктара Маркаўца... Няма і твораў тых, хто сёння жыве ў іншых краях: Андрэя Задорына, Ігара Цішына, Ігара Кашкурэвіча.

### Цуды для знаўцаў

Ведама ж, мне вялікую асалоду прынесла знаёмства з «Евай» Суціна і «Гадзіннікам на палаючым небе» Шагала! Упершыню большасць гледачоў можа ўбачыць твор Міхаіла Кікоіна, чые школьныя гады прайшлі ў Мінску. Але іх варта было б выстаўляць у большай прасторы, каб глядач мог адступіць хоць на пару метраў. На экспазіцыі іх згрувасцілі, як на паліцах у гастраноме.

Тут можна ўбачыць дзівоснага характва абразы і скульптуры са збораў Гродна, Полацка, Гомеля, Віцебска, Веткі. Гэта сапраўдныя цуды для знаўцаў. Але... чаму не пазначаныя на цэтліках ані храмы, з якіх паходзяць гэтыя рэліквіі, ані нават мясцовасці, адкуль іх вывезлі?! Адкуль гэта: з касцёла ці царквы, з Маларыты ці з Дрысвятаў? Хіба ж так робіцца ў сур'ёзных установах?

Была ўнікальная магчымасць паказаць і іншыя творы, што схаваныя ў запасніках на цэлыя пакаленні! Штосьці ўдалося, нешта — не. Першыя залы пераўзышлі чаканні, апошнія — расчароўваюць. Лішні доказ банальнай ісціны пра немагчымасць ахапіць неахопнае. Але і сённяшняя выстава — вялізны прарыў у параўнанні з тым, што дазволена было ў савецкія часы.

Зрэшты, хто б сабе ўявіў нават і пару гадоў таму, што кіраўнік «Белгазпрамбанка» выгукне на адкрыцці «Жыве Беларусь!»? Можа, яшчэ праз пару гадоў яго рэфрэнам падхопяць гледачы і астатнія чыноўнікі? І тады доўга будзе біцца рэхам наш покліч між калонаў Нацыянальнага мастацкага музея, над якім будуць лунаць нашыя сцягі...

# Казка пра перавыхаваных бізнэсоўцаў

Уражанні ад закрытага паказу новых **«Белых Росаў»**.

Дрэнны Захад і бяздушны Мінск, несумленныя замежныя інвестары і цынічныя бізнэсмены, якія адарваліся ад каранёў... Фільм «Белыя Росы. Вяртанне» — якраз пра вяртанне тых бізнэсменаў да каранёў.

Поспех першых «Белых Росаў», якія ў 1983 зняў рэжысёр Ігар Дабралюбаў, забяспечылі актуальнасць тэмы — тады якраз ішла ўрбанізацыя, — а таксама зорны склад акцёраў, мяккі гумар і лірызм.

Рэжысёр Аляксандра Бутар вырашыла паўтарыць поспех Дабралюбава. Раней яна здымала на тэлебачанні музычныя кліпы (найперш гурту «Цягні-Штурхай»), навагоднія мюзіклы «Батлейка» і «Паўлінка-new». «Белыя росы. Вяртанне» — яе дэбют у вялікім кіно.

Замежных зорак у новых «Белых Росах» дзве: Карачанцаў і Будрайціс. Мікалай Карачанцаў (Васіль Ходас) з'яўляецца літаральна ў адным эпізодзе. Акцёр у 2005 трапіў у цяжкую аварыю, атрымаў інваліднасць, гэта яго першы выхад на экран за доўгі час. Славуты літовец Юозас Будрайціс іграе яго брата Андрэя Ходаса (у першым фільме Ходасастарэйшага ўвасобіў Генадзь Гарбук).

Паводле сюжэта, Андрэй вяртаецца з горада ў родную вёску, дзе засталося ўсяго два жыхары: хутаранец Струк (Віктар Манаеў) і нямая жанчына Поля (актрыса Тэатра беларускай арміі Яўгенія Жуковіч). Але ідылічнаму жыццю на ўлонні прыроды перашкаджаюць бізнэсмены Бодзя (Павел Харланчук) і Русачанка (Сяргей Жбанкоў). Яны збіраюцца пабудаваць у Белых Росах турыстычны комплекс і дзеля гэтага хочуць адсяліць мясцовых жыхароў.

Грошы бізнэсменам даюць замежныя інвестары. Яны паказаныя бязлітаснымі капіталістамі, якія не разумеюць беларускай душы. Мінск паўстае дзелавым мегаполісам, дзе ўсе спяшаюцца. Цікава, што паказаны яго навабуды — напрыклад, «дом Чыжа», у якім жыве адзін з бізнэсменаў. Вёска ж у гараджанаў асацыюецца з наіўнасцю і празмернай сумленнасцю.

Ігра акцёраў трохі прыхоўвае агульны сентыменталізм і штучнасць сюжэта. Ходас паўстае задуменным вясковым філосафам. «Калі ўсё будзе знесена, куды прыляціць бусел?» — пытае ён у бізнэсмена Бодзі. Працілӗгласць Ходаса — легкадумны Струк (для Віктара Манаева гэта першая вялікая роля ў кіно). Атрымаўшы пенсію, Струк купляе на ўсе грошы латарэйныя білеты. Прадаўшы дом Полі, ён марыць набыць яшчэ больш білетаў, а за выйграныя грошы купіць кватэру ў горадзе.

І ўсё гэта — па-расейску. Беларуская мова гучыць толькі ў песні народнага ансамбля, які сустракае самалёт з былой жонкай Андрэя Ходаса. Але пасля кабеты ў народных строях пераходзяць на «обшчапанятную».

Неўзабаве «Белыя Росы. Вяртанне» плануюць паказаць Лукашэнку. А ўжо потым выпусціць на вялікі экран.

**Дзяніс Марціновіч**



КРЫЛА ХІЛЬКО

# У Мінску адкрылася крама вінілавых кружэлак

У краме «Ў», што месціцца ў будынку галерэі «Ў» (праспект Незалежнасці, 37а), адкрылася крама вінілавых кружэлак *Delay Sound System*. Гаспадары плануюць прадаваць новыя рэлізы на вініле, а таксама адкрываць для людзей музыку, якая не ўпісваецца ў фарматы радыёстанцый. Плануецца паступленне кружэлак з Берліна, Масквы і Амстэрдама. Уладальнікам крамы з'яўляецца Захар Шлімакоў, які некалі зрабіў дызайн сайта nn.by.

# «Я — той легендарны Сосенскі, якога шмат ведалі...»

Аўтар «Нашай Нівы», які вывеў у свет Змітрака Бядулю.

Яўрэй з вілейскага Даўгінава, які не здолеў заняцца бізнэсам па сённяшніх панятках, а пацягнуўся да беларускага слова. Гэта аўтар «Нашай Нівы» стагадовай даўніны Вульф Абелевіч Сосенскі.

Ён не меў добрай адукацыі, што зашкодзіла яму раскрыцца як творчай асобе. Хацеў стаць літаратарам, але так і застаўся пачаткоўцам. Заводзіў знаёмствы з дзеячамі культуры, пасля, калі іх не стала, пісаў успаміны.

Ён нарадзіўся ў 1883 у Даўгінаве. З яго біяграфіі пакуль вядома мала. Тое-сёе знаходзім на старонках «Нашай Нівы», больш — у ягоных лістах.

«Вульф Сосенскі залажыў вялікую швальню і вучылішча кравецтва, — прымае ўчанікоў, вучыць англійскай і нямецкай рабоце. Скончыўшым у яго навуку выдаецца свядэтства», — паведамляла НН у красавіку 1910. А ўжо праз непрацяглы час праз рэдакцыю збіралі грошы для Вульфа і яго «пакалечанай маткі», як для пагарэльцаў. Відаць, справа са швальняй скончылася нічым.

А першыя яго допісы ў газеце з'явіліся яшчэ ў 1908-м.


З ФОНДУ БДАМЛМ

Вульф Сосенскі.

### Паказаў Бядулю газету па-беларуску

Менавіта Сосенскі быў тым чалавекам, які Самуіла Плаўніка (Змітрака Бядулю) далучыў да беларушчыны. І хаця Самуіл ведаў беларускую мову, у вершаскладанні практыкаваўся па-расейску (у дзяцінстве складаў радкі і на старажытнаяўрэйскай мове). І яго расейскамоўныя вершы і апавяданні друкаваліся.

У Плаўніка ў Даўгінаве жыла цётка па маці — Злата Бейле. Туды яго і адправілі на вучобу ў ешыбот (школу рабінаў) у 1898. Там, праўда, доўга не правучыўся — перавёўся праз паўгода ў ешыбот у Ілью. Затым была праца каля Батурына, у родным Пасадцы. Але наведваўся ў Даўгінава, за 25 кіламетраў. Прыкладна ў 1907 у мястэчку ён запісаўся ў сацыялістычны гурток, у якім чыталі расейскія брашуры пра Маркса, Энгельса, праграмы Бунда... А з беларускім друкаваным словам яго пазнаёміў Вульф. Спачатку пра даўгінаўца, які выпісвае беларускамоўную газету Бядулю расказала знаёмая дзяўчына Мэра Гардон. Параіла з ім пабачыцца. Але ўсё не выпадала. А калі ўжо Самуілу бацька прывёз адрэз сукна на гарнітур, сам і адвёз сына да Сосенскага на прымерку — кравец жа. Тады, праўда, пагаварыць пры бацьку надта не атрымалася, але некалькі нумароў «Нашай Нівы» ён прывёз у Пасадзец.

Сосенскі пасля пра здольнага хлопца напісаў у «Нашу Ніву». А даўгінаўскаму карэспандэнту адказалі: «Ваш пясняр, калі можа пісаць беларускія вершы, то няхай прышле, калі добрыя будуць, то ахвотна надрукуем». Праз дзевятнаццаць нумароў рэдакцыя адказвала самому Плаўніку: «Ужо лепей, пішыце яшчэ. Толькі больш увагі на мову». Першая літаратурная публікацыя з'явілася 23 верасня 1910. Абразок «Пяюць начлежнікі» падпісаны «С.Плаўнік».

Невядома, як бы склаўся літаратурны лёс Бядулі, калі б Сосенскі не паказаў яму газету на беларускай мове. Даўгінаўскі яўрэй гэтым фактам ганарыўся і пры нагодзе не забываўся пра тое расказаць. Праўда, не ўсе верылі.

### Не вучыўся

«Ты ж быў здольным хлопцам, — пісаў у 1940-м у лісце да Вульфа Бядуля, — няхай бы ты займаўся ў свой час самаадукацыяй. Я ж у маладыя гады быў не багацейшы за цябе, аднак вучыўся».

«Слухай, братку. Калі ў цябе хопіць часу і цярплівасці, я параіў бы табе вучыцца ў вольны час, каб стаць добраграматным чалавекам, а то пішаш так, як пісаў 30 гадоў таму назад. Я добра помню твае матэрыялы, якія ты прысылаў у «Нашу Ніву». Твае карэспандэнцыі былі заўсёды разумныя і талковыя», — працягваў Бядуля ў тым жа лісце. І падказваў, што допісы ў газетах добра аплочваюцца, але пісаць трэба літаратурнай мовай. Раіў стаць карэспандэнтам аднаго з мінскіх выданняў, а ён бы, як ужо вядомы пісьменнік, першы час правіў ягоныя тэксты. Праўда, з гэтага нічога, здаецца, не выйшла. А праз год памёр і Змітрок Бядуля.

Сосенскага шмат хто ведаў. Яшчэ ў міжваенныя час ён пазнаёміўся з Янкам Станкевічам, Антонам Луцкевічам. У 1933 у «Гадавіку Беларускага навуковага таварыства ў Вільні» доктар Станкевіч надрукаваў артыкул «Жыдоўскія рэлігійныя песні пабеларуску», у якім прывёў песню, запісаную ад Вульфа. Дарэчы, ён сабраў цэлы «зборнік беларуска-жыдоўскага фальклору», які збіраўся перадаць Беларускаму музею ў Вільні.

З Максімам Танкам Сосенскі сутыкнуўся, калі паэт працаваў у абласной газеце «Вілейская праўда» (затым «Сялянская газета») у 1939—1940. Ужо падчас вайны пісаў Танку лісты. Праўда, паэт не ўспрымаў земляка сур'ёзна. «Стары яўрэй працаваў калісь у «Нашай Ніве». Хваліўся, што ён Бядулю вывеў у свет. Яго партызаны перапраўлілі на гэты бок [за лінію фронту]. Ён знайшоў праз газету мой адрас і цяпер прысылае то нікудышныя вершы, то сентыментальныя лісты», — тлумачыў у лісце да жонкі Танк.



Змітрок Бядуля.

**Змітрок Бядуля**

(Самуіл Яфімавіч Плаўнік) нарадзіўся 23 красавіка 1886 у вёсцы Пасадзец Лагойскага раёна. Сям'я была небагатай, але бацькі хацелі даць сыну адукацыю. Вучыўся ў хедэры, затым ешыбоце. Праўда, са школы рабінаў яго выгналі. Пачынаў пісаць па-расейску, але перайшоў на беларускую. Працаваў разам з Янкам Купалам у «Нашай Ніве». Пасля рэвалюцыі 1917 — у рэдакцыях газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Зорка». Пазбег рэпрэсій. Пры жыцці быў шанаваным беларускім пісьменнікам. Памёр 3 лістапада 1941 ад інфаркту ў вагоне цягніка, калі ехаў з сям'ёй у эвакуацыю. Пахаваны каля Уральска ў Расіі. У Мінску ў пісьменніка жыве сын Яфім Плаўнік.

Змітрок Бядуля — аўтар дзясяткаў кніжак прозы і вершаў. Найбольш вядомыя яго творы — аповесць-казка «Сярэбраная табакерка», аповесцяў «Салавей» і «У дрымучых лясах», апавяданні «Пяць лыжак заціркі», «На Каляды к сыну», «Летапісцы».

### «Як-небудзь жыву»

У Вульфа была вялікая радзіна. Перад вайной, у 1935-м, ён аўдавеў, застаўся з шасцю дзецьмі на руках. А як прыйшлі нацысты, забілі ўсіх. «Фашысты спалілі шасцёра маіх дзяцей, чацвёра братоў і сястру ў тым жа Даўгінаве. Нас было восем братоў і адна сястра. Адзін памёр маленькім, адзін не мог перанесці прыгнёту польскіх паноў — атруціўся... Самы меншы ў Буэнас-Айрэсе на вуліцы паваліўся — памёр... Я, той легендарны Сосенскі, якога шмат ведалі, як-небудзь жыву», — пісаў Максіму Танку.

У вайну ён трапіў у эвакуацыю ў Сібір, дзе «сышоўся з адной дослыць добрай кабецінай, але слабой здароўем». Яго другая жонка Буня была на 33 гады маладзейшай. У год заканчэння Другой сусветнай у іх нарадзілася дачка Раіса.

### Дзядок прапанаваў прабегчыся

З эвакуацыі сям'я перабралася ў Латвію — у мястэчка Ікшкіле Огрскага раёна, за 30 кіламетраў ад Рыгі. Буня працавала ў сталіцы на электратэхнічным заводзе, Раіса вучылася на медыка, гаспадар вартаваў краму. А яму было за 80 ўжо. У лістах скардзіўся на пагаршэнне здароўя: «трошкі аглух, вочы — зацягваюцца плёнкаю». Але не забываўся на справы творчыя: «Днём, вольным часам, памаленьку пішу казкі, апавяданні...»

У 1960-я Сосенскага ў Латвіі наведаў літаратуразнаўца Арсень Ліс. Арсень Сяргеевіч успамінае, якім жвавым яшчэ быў дзядок. Ён прапанаваў прабегчыся да дуба, які стаяў наводдаль. І пабег...

Сосенскі пражыў у Ікшкіле роўна дваццаць гадоў, а ў 1966 выехаў з сям'ёй у Польшчу, каб адтуль ляцець у Ізраіль. З Іерусаліма ён прысылаў у Беларусь паштоўкі. Пісаў іх пабеларуску.

Там у 1969, як падказаў даследчык гісторыі літаратуры Віктар Жыбуль, і перастала біцца сэрца «таго легендарнага Сосенскага», аўтара «Нашай Нівы» стагадовай даўніны.

Сяргей Макарэвіч



У гэтым будынку ў Даўгінаве знаходзіліся сінагога і ешыбот, у якім вучыўся Змітрок Бядуля. Цяпер тут сараі.

# У лазні

Вінцэсь Мудроў.
Апавяданне.

Сакавіцкай парой прыемна пахнуць бярозавыя венікі. Высахлыя на ветры, яны струменяць даўкі водар, шамацяць, калі іх злёгку патрэсці, і гэтым сваім шамаценнем выказваюць гатовасць зараз жа панурыцца ў кіпень і хвацка прыкласціся да распаранага азадка.

Перадаўшы прадавачцы дваццаць тысячаў, Макар панурыў твар у выпетранае лісце, хапануў ноздрамі паветра, і ад гаркава-дурманлівага паху ў яго закружылася галава.

«Як добра пахнуць венікі ля лазні гарадской...» — нарадзіліся ў душы паэтычныя радкі, Макар спыніўся, задзер голаў, шукаючы рыфму слову «венікі», але ў галаве круціліся толькі «варэнікі», і паэт, плюнуўшы пад ногі, борзка ўзбег па прыступках.

Звычайна на дзённыя сеансы народу ў лазню прыходзіла няшмат, сёння ж каля касы стаяла вялізная чарга.

Макар утрапёна агледзеў натоўп, маракуючы — ці варта займаць чаргу, бо квіткоў магло й не хапіць, — ды, павагаўшыся, голасна запытаў:

— Хто апошні?

Апошнім стаяў недаростак з чырвонай, усё адно як варам апаранай галавой, на макаўцы якой зласвесна стаўбурыліся рэдкія валасы.

Не паспеў Макар прыліпнуць да хваста чаргі, як за спінай ягонай прымасцілася яшчэ некалькі чалавек.

— Адкуль столькі людзей? — сіпата дыхнулі яму ў патыліцу.

Ззаду стаяў кучаравы мацак у камуфляжным бушлаце і ў аграмадных вайсковых чаравіках.

— Квіты ад ранку не прадавалі, — азвалася на тое вірлавокая цыба, што стаяла паперадзе недаросткa. — Вунь, бачыце, — цыба кіўнула ў бок разнасцежанага цеплавузла, — штосьці ў іх там зламалася. Кагадзе адрамантавалі.

З цёмнай праймы цеплавузла выпаўзаў, прычым задам наперад, здаравіла-слесар.

Пабачыўшы важкі мужчынскі азадак, цыба знянацку замітусілася, выбегла з натоўпу і, запусціўшы руку між грудзей, выцягнула зумклівы «мабільнік».

— Клава, я ў лазні... — засакатала кабета, ціснучы да вуха слухаўку і казелячы вокам на слесара, які збіраў інструмент. — Мінулы раз, пасля парыльні цэлы кілаграм скінула, цяпер вось думаю яшчэ пару кіло скінуць.

— Куды табе скідваць... і так худая, як вобла, — пачуўся за спінай знаёмы голас.

— Ды гэта проста вада выходзіць потам, а тлушч застаецца, — прамовіў Макар, і недаростак, азірнуўшыся, працяў яго дапытліва-суворым позіркам.

— Ты што, бандэра?

Макар напачатку не зразумеў пытання. Стаяў зніякавелы, і толькі потым уцяміў, што меў неасцярожнасць выдаць фразу па-беларуску. Яшчэ ніколі яго, беларускага паэта, аўтара трох паэтычных зборнікаў, так не абражалі. Паэту — у кароткае імгненне — стала холадна, потым горача, а пальцы правай рукі міжволі сціснуліся ў кулак.



**Вінцэсь Мудроў**

Нарадзіўся ў 1953-м у Полацку. Пісьменнік. Яго кніга «Багун» прэтэндуе сёлета на прэмію Гедройца.

— Лёха, чаму так далёка ад касы? — крыкнулі ад уваходных дзвярэй, і да недаростка валюхастай хадой падышоў зладзеяватага выгляду бамбіза. Гэта быў мужчына сярэдняга веку, з нахабнай тыднёвай шчэццю і з арыгінальнай лысінай: яна ў яго пукацілася, што тая балканская феска, прычым у атачэнні густых чорна-гудронных валасоў.

— Куды плішчыцеся? Чаргу займайце, — незадаволена бухнуў за Макаравай спінай усё той жа сіпаты голас, і недаростак з інтанацыяй пераможцы працэдзіў: — Яшчэ адзін бандэра.

На міг усе суціхлі. Макар адчуў, як людзі ў натоўпе разам згорбіліся, наструнілiся, прыцiснуліся адно да аднаго, і ў гнятлівай цішыні зласвесна шэрхнулі падэшвы вайсковых чаравікаў. Кучаравы мацак наблізіўся да недаростка, схапіў таго за каршэнь.

— Яшчэ адно слова, абгрыздыш, і заляціш вунь туды, — мацак тузануў падбародздзем, паказваючы на цеплавузел.

Макар адсунуўся ўбок і спалохана назіраў, як лысы бамбіза, ляснуўшы кулаком правай рукі аб далонь левай, разважліва прамармытаў:

— Ну што, хахляра, цябе зараз замачыць ці пасля таго, як памыешся? — пудовы кулак быў пазначаны наколкай крыжа і зламанай ружы.

Натоўп забубнеў на ўсе галасы. Цыба, папраўіўшы збіты набакір капялюш, з гатовай радасцю ўсклікнула: «Мужчыны... знайшлі месца, дзе біцца!» — а перапэцканы іржою слесар, махнуўшы дзеля саліднасці разводным ключом, загадна выдыхнуў: «Усё, мальцы... разышліся».

Мальцы разышліся, паабяцаўшы сустрэцца пасля лазні.

Макар паглядзеў на ўваходныя дзверы.

«А можа пайсці дахаты? А то ўліпну ў якую гісторыю... Пляшак, падобна, з зоны адкінуўся. Парне фінкай — і не скрывеліцца», — апанаваны такімі думкамі, Макар уздыхнуў, але потым згадаў, што мыўся месяц назад, а тут яшчэ новы венік набыў... што ж яго цяпер — сухім дахаты несці? Прыціснуўшы венік локцем, паэт палез у кішэнь па грошы. Чарга рухалася надзіва хутка, і ён ужо быў недалёка ад касы.

Квіткоў прадалі больш, чым трэба, і шафак усім не хапіла. Макар вырашыў трымацца бліжэй да кучаравага хлопца, таму й прапанаваў павесіць вопратку ў адну шафку. Пляшак з недаросткам раздзяваліся непадалёку.

— Лёха, як толькі хто рыпнецца — кліч мяне. Ты ж мяне ведаеш — я б'ю два разы: адзін раз па кумпалу, другі — па веку дамавіны, — грымеў знявечаны шумам дожджыку і раскоцістым рэхам плешаковы голас. — Аднойчы, яшчэ да зоны, пайшоў у лазню, і там адзін, такі ж вось фраер, пачаў залупацца. Дык я яго на распаленыя камяні пасадзіў. Так і спёк яйцы. А з бандэраю ў мяне ўвогуле размова кароткая...

Слухаючы такое, Макар нават упрэў, а зыркнуўшы на плешака, зусім заняпаў духам. Торс былога зэка быў скрозь у наколках, а ад шыі і да самага паха сінеў завілы пісяг.

— А ты што, з Ільвова? — запытаўся тым часам кучаравы хлопец, сцягваючы з нагі нехлямяжы чаравік.

— Ды я там ніколі не быў, — пралепятаў Макар, нагнаўшы на твар устурбавана-абарончую гімору. Хацеў яшчэ сказаць, што ён беларускі паэт, але змаўчаў, бо невядома было — як на тое зрэагуе суразмоўнік.

Балеяў таксама ўсім не хапіла, але лазеншчык, кульгавы дзядзька ў белым халаце, голасна паведаміў, што неўзабаве прынясуць спісаныя медніцы са склада.

Кучаравы хлопец стаў пад дожджык, а Макар вырашыў першнаперш наведаць сухую парыльню, а потым нырцануць у басейн.

Ён адчыніў дзверы саўны, удыхнуў гарачага паветра і тут жа ўгледзеў плешака, які з крэканнем залазіў на паліцу. Макар згадаў вусцішны аповед пра апечаныя яйцы, пастаяў хвілю ў нерашучасці і пад незадаволены вокліч: «Зачыняй, дух выходзіць!» — грукнуў дзвярыма, так і не наведаўшы парыльню.

Абяцаныя медніцы дагэтуль не прынеслі, і тыя, каму іх не хапіла, з зайздрасцю паглядалі на недаростка, які, не раўнуючы як герой Зошчанкі, прысабэчыў аж тры балеі — у адной адмочваў ступакі, у другой мыўся, а на трэцюю, перакуліўшы дагары дном, паклаў мыла і вяхотку. Невядома, колькі б доўжылася такое мыццё, каб да Лёхі не падышоў Макараў«кампаньён». Макар быў далёка і не чуў іхнай размовы, але недаростак, відаць, сказаў штосьці крыўднае, бо кучаравы хлопец на міг сумеўся, а потым, узняўшы балею з вадой, абрынуў на Лёхаву галаву, ды так, што праламіў пластмасавае днішча. Недаростак войкнуў, паспрабаваў устаць, але тут жа плюхнуўся напоперак лавы, наставіўшы ўгору куртаты, з невядомай прычыны ўзбуджаны чэлес.

Акурат той хвіляй лазеншчык прынёс цэлы стос бляшаных медніц. Макар падхапіў самую верхнюю, сеў на крайнюю лаўку і здаля стаў пазіраць на Лёху, якога палівалі вадой і рабілі штучнае дыханне. Пазіраў з трывогаю, чакаючы таго моманту, калі Лёхаў карыфан выкуліцца з парыльні. Той, аднак, не выкульваўся, і Макар, набраўшы вады ў медніцу, намыліў галаву.

— У нас у аддзеле таксама ўчора завяліся. Адны за Пуціна, другія за ўкраінцаў, — гугнявіў хтосьці праваруч, завіхаючыся з вяхоткай.

— Хахлы ў тую вайну Гітлеру прадаліся, цяпер вось пад Амерыку падбіваюцца, — азваліся леваруч.

— Пасля Сталіна не тое што Гітлеру — самому чорту душу закладзеш, — рэзюмаваў гугняк і нечакана, з інтанацыяй панікі, загарлаў: — Б'юцца!

Змахнуўшы з вачэй мыльныя хлапякі, Макар убачыў, як кучаравы хлопец заехаў плешаку кулаком у грудзіну, але той, як Фантамас, толькі злёгку хітнуўся. Мыла выядала вочы. Макар плюхнуў вады на твар, але слёзы засцілі свет, і ён толькі пачуў ляскат босых ног, сіплую лаянку і бурлівы плёскат у лазенным басейне.

Калі падбег да басейна, кучаравы ўжо пускаў бурбалкі. Пляшак сядзеў на ім, прыціснуўшы да дна і не даваў хапануць паветра.

— Ратуйце! Патопіць чалавека! — гракнулі адразу некалькі глотак, і Макар, разагнаўшыся, скокнуў на лысую галаву.

Ужо ў вадзе пляшак даў яму каленам у жывот, Макар глынуў смярдзючай хлоркі, усплыў, у два грабкі даплыў да нікеляванай лесвіцы, і галёнка ягоная знямела ад жалезнага спохвату. Віснучы на парэнчах, Макар заехаў плешаку пяткай у нос і кінуўся ў прымыльнік. Думаў схапіць у абярэмак апранахі і падацца да выхаду, але шафка была зачынена, а за спінай ужо грымелі здушаныя мацюкі — пляшак, падобна, бег, прыціскаючы далонь да разбітай нюхаўкі.

Фае, на шчасце, было пустое, каса зачыненая, і Макар непрыкметным ценем праслізнуў у цеплавузел. Тут, у цёмным катуху, не хапала паветра, і ён адчуў лёгкую млосць. Сэрца парывіста білася, трапятала ля горла, замарачным шумам адбівалася ў барабанных перапонках. У фае штосьці бразнула, пакацілася па падлозе, і замарачны шум увушшу пакрыў пранізлівы жаночы віскат. Лысы, няйначай, памкнуўся шукаць «бандэру» ў жаночым аддзяленні. Макар з адчаем падумаў, што вось зараз дзверы разнасцежацца, лысы бандос выцягне яго, голага і мокрага, са спрату і пачне душыць сваімі страшнымі лапамі, але за дзвярыма запанавала ціша, якую праз нейкі час парушыла бразганне дзвярэй і грымотнае тупаценне.

Цэментавая падлога была халоднай, таму паэт увесь час пераступаў, як той смаргонскі мядзведзь, з нагі на нагу, адчуўшы раптам, што яму не проста млосна ў гэтым цёмным катуху, але і млосна жыць на белым свеце. І невясёлыя думкі віравалі ў галаве.

«Вось уліп дык уліп. Добра яшчэ, калі Лёха ачомаецца. А як памрэ? Завядуць крымінальную справу, пачнуць выклікаць на допыты. І добра яшчэ, каб у якасці сведкі. Не-э, пара завязваць з той паэзіяй, бо хутка за беларускую мову пачнуць збіваць нагамі. Гэта раней мы, беларусы, былі бэнээфаўцамі, цяпер вось ператварыліся ў бандэраўцаў. А з бандэрай, казаў той пляшак, размова кароткая — могуць і на той свет выправіць».

Фае ізноў абудзілася. Пачуліся кароткія воклічы, катаржны шоргат падэшваў. Ні жывы ні ўмерлы, Макар прачыніў дзверы, зірнуў у вузкую пройму і ўбачыў двух міліцыянтаў, якія вялі пад рукі кучаравага маладзёна. Маладзён пры гэтым зацкавана азіраўся і, наглытаўшыся вады з хлоркай, голасна ікаў. На дне душы Макаравай абудзілася і пачало дымна тлець адчуванне віны перад хлопцам, і дрыготкія вусны з няўклюдным спачуваннем прашапталі:

— Згарэў ні за што.

Макар чакаў, што зараз з прымыльніка выведуць лысага ды вынесуць Лёху, але нікога больш не выводзілі і не выносілі. Замест таго лазню скалануў жаночы лямант:

— Іх чацвёра было!..

Голас падаўся Макару знаёмым, і ён прыпаў да шчыліны. Ну вядома, гэта вірлавокая балбатуха выкулілася з жаночага аддзялення. Кабеціна была спавіта ў прасціну, а на галаве быў накручаны турбан з махровага ручніка.

— Адзін невялічкага расточку... за мной стаяў. Потым яшчэ падышоў... здаровы такі, лысы... і выгляд бандзюкаваты. І завяліся з двума іншымі. Адзін быў у вайсковай адзежыне, а другі ў сіняй куртцы і венік трымаў пад пахай... Мне яшчэ падалося, што ў яго крыху не хапае...

— Балаболка лупатая, — уголас прашаптаў Макар, спужаўшыся ўласнага голаса.

— Ну, а за што яны завяліся? — запытаўся міліцыянт, які стаяў поруч і штосьці пісаў у нататніку.

— Ды той, дурнаваты, крыкнуў штосьці па-хахляцку, а маленькаму.. ну, задрыпу таму, што за мной стаяў, гэта не спадабалася...

— А што ён крыкнуў? Пастарайцеся згадаць. Гэта вельмі важна. Можа што пра майдан ці пра выбары?

— Ды не... я якраз з сястрой размаўляла і сказала, што пасля парыльні кілаграм вагі скінула. А той хахол загарлаў, што гэта пот з арганізма выйшаў.

— Усё абшукаў — нідзе няма, — гукнулі знянацку з прымыльніка.

— Абяжы вакол лазні, можа дзе, голыя, у кустах сядзяць, — загадаў міліцыянт, піхнуўшы ў кішэнь нататнік, — і ў «хуткую» патэлефануй. Хай прыедуць, паглядзяць таго... кантужанага.

Дзверы паволі адчыніліся, і Макар на цырлах, сабраўшы ў прыгаршчы машонку, заляцеў у прымыльнік. Недаростак, дзякаваць богу, ачуняў: сядзеў на лаве, а перад ім, прыпаўшы на калена, завіхаўся лазеншчык з медычнай пляшачкай у руках. У паветры да свербу ў носе пахла нашатырам.

Шафка была расчынена, і вопратка валялася на падлозе. Няйначай, кучаравы небарака раскідаў, як збіраўся ў пастарунак.

Макар з цяжкасцю нацягнуў штаны, нахіліўся, каб падняць кашулю, ды так і замёр нерухомы. За тры метры ад яго стаяў пляшак і дрогкімі рукамі спрабаваў надзець трусы. На плешака было страшна глядзець: ён быў мокры ад макаўкі да пятак, дарэшты ссінелы і яго ўсяго калаціла. І дрыжыкі былі нейкія дзіўныя: лыткі, чэрава, лысая галава і ліловы азадак тузаліся, дрыжэлі, пульсавалі ў нейкім дзікім разнабоі, а з расквашанага носа і пабітай макаўкі ценькімі струмкамі збягала юха. Пляшак, відаць, хаваўся ў кантраснай ванне. Вада там ледзяная, таму і скарчанеў, як цуцык.

Макар падышоў да акалелага небаракі, дапамог насунуць кашулю. Кроў з пабітай макаўкі пайшла як мае быць, таму Макар адарваў кавалак газеты, што ляжала, прыціснутая мокрымі нагамі, на падлозе, прыляпіў на скрываўлены кумпал.

...Міліцэйскай машыны каля лазні ўжо не было. Зірнуўшы на «хуткую дапамогу», што калывалася на выбоінах, Макар паляпаў па сцёгнах, шукаючы цыгарэты, і толькі тады заўважыў, што надзеў чужыя порткі. Ён дастаў пачак, працягнуў скалеламу гаротніку. Той памкнуўся вылушчыць цыгарэту, але пальцы зусім не гнуліся, і Макару давялося самому ўстаўляць цыгарэціну ў пасінелыя вусны, пстрыкаць перад разбітым носам запальнічкай. Змагаючыся з дрыжыкамі, гаротнік зацягнуўся цыгарэтным дымам, і на змарнелым твары ягоным нарадзілася журботная ўсмешка.

## ФУТБОЛ

### «Шахцёр» — «Дынама»

**11 красавіка** адбудзецца цэнтральны матч 3-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе. У Салігорску «Шахцёр» прыме мінскае «Дынама». Таксама ў гэты дзень: «Дняпро» (Магілёў) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна), «Нёман» (Гродна) — «Нафтан» (Наваполацк), «Мінск» — «Слуцк». У суботу згуляюць «Белшына» (Бабруйск) — «Дынама» (Брэст). У нядзелю — «Гомель» — БАТЭ (Барысаў).

## КАНЦЭРТЫ

### Пукст

**10 красавіка а 19-й у клубе Tarantino (Кастрычніцкая, 5)** — вялікі канцэрт Сяргея Пукста і гурту *Pukstband*.

### Akute

**11 красавіка ў клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** — прэзентацыя новага альбома гурту *Akute*. Пачатак а 19-й.

### «Нейра Дзюбель»

**11 красавіка а 19-й у клубе «Піраты» (пр-т Партызанскі, 6А)** граюць гурты «Адаптацыя» (Казахстан) і «Нейра Дзюбель».

### TonqiXod

**12 красавіка**, у Дзень касманаўтыкі, у клубе «Паддашак» (Віцебск, Кастрычніцкая, 12) выступаюць гурты *TonqiXod* і «Князь Мышкін».

### S°unduk

**14 красавіка ў тэатры імя Янкі Купалы (Энгельса, 7)** — канцэрт Ганны Хітрык і гурту *S°unduk*. Пачатак а 19-й.

### Apple Tea

**15 красавіка на сцэне ДК Прафсаюзаў (Незалежнасці, 25)** выступае джаз-гурт *Apple Tea*. Пачатак а 19-й.

### «Воплі Відаплясава»

**17 красавіка а 19-й на сцэне клуба Re:public (Прытыцкага, 62)** — выступ гурту «Воплі Відоплясова» (Украіна).

## ВЫСТАВЫ

### Дзесяць стагоддзяў беларускага мастацтва

**У Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** дзейнічае выстава «10 стагоддзяў беларускага мастацтва». Гэта адзін з самых маштабных праектаў апошніх гадоў: на ім прадстаўлена каля 500 экспанатаў амаль з усіх музеяў Беларусі, карціны Шагала, Ваньковіча і Суціна з уласнай калекцыі «Белгазпрамбанка». Мэта выставы — паказаць мастацтва Беларусі як жывы і непарыўны працэс, інтэграваны ў сусветную мастацкую прастору.





### Дэталізацыя

**У галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А)** працуе фотапраект «Дэталізацыя». Аўтар асноўнай часткі фатаграфій — Лаліта Угуран-Туміловіч. Таксама ў праекце прадстаўленыя работы, створаныя ў творчым тандэме з Аляксандрам Абуховічам. У аснове экспазіцыі — 35 фотаздымкаў, кожны з якіх стаўся адлюстраваннем асобы Лаліты. Магія творчасці пераўтварае стыліста ў мастака, а яго героя — у муз, якія натхняюць на стварэнне прыгажосці, няхай і не заўсёды лёгкай для ўспрымання і разумення.

### Чалавек на дарозе

**З 3 красавіка ў Цэнтры сучаснага мастацтва (Някрасава, 3)** прадстаўлены экспазіцыі сучаснай украінскай, малдаўскай і беларускай фатаграфіі. Асноваа праекта — тры выставы: маладых малдаўскіх фатографаў «Беражлівае стаўленне да рэчаў», украінскай творчай майстэрні «L∞K» «Наша агульнае асабістае» і беларускіх фатографаў Андрэя Дубініна і Андрэя Карачуна «Чалавек на дарозе».



### «Салідарныя з Беларуссю»

**11 красавіка ў Кракаўскім прадмесці Варшавы** на пляцоўцы каля гатэля «Брысталь» пачнецца традыцыйны фестываль «Салідарныя з Беларуссю». Пачатак — у 19.00. Сёлета на мерапрыемстве заяўленыя выступы культавага польскага гурту *Maleo Reggae Rockers*, украінцаў *Kozak System* і двух беларускіх гуртоў — *Amaroka* і «Ляпіс Трубяцкой».

## ТЭАТРЫ

### 10 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Адэль
**Купалаўскі** — Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл
**Оперы і балета** — Кармен
**Юнага гледача** — Пан міністр

### 11 красавіка

**Купалаўскі** — Офіс
**Оперы і балета** — Эсмеральда
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

### 12 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Лялек** — Кот у ботах
**Оперы і балета** — Эсмеральда
**Юнага гледача** — Сакрэт сапраўднага сяброўства

### 13 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Лялек** — Марозка
**Купалаўскі** — Ноч на Калядах
**Оперы і балета** — Рыгалета
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 15 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Оперы і балета** — Рыгалета

### 16 красавіка

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Translations
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

## КІНО

### Са шчытом

Першы мсціўца: іншая вайна
Фантастыка, баявік, прыгоды
**Рэжысёр:** Энтані Русо, Джо Русо, Джос Уідан
**У ролях:** Крыс Эванс, Скарлет Ёхансан, Энтані Макі, Себасцьян Стэн, Роберт Рэдфард
ЗША, 136 хв.

Стыў Роджарс (Крыс Эванс), вядомы як Капітан Амерыка, адаптуецца да жыцця ў XXI стагоддзі (ён быў у коме і замарожаны на 70 гадоў). Ён мяркуе працягнуць супрацоўніцтва з арганізацыяй, якая змагаецца са злодзеямі ўсяго свету, пакуль не забіваюць яе кіраўніка — Ніка Ф'юры. Капітан Амерыка разумее, што ва ўстанову пранiклі здраднікі, паслядоўнікі нацысцкай «Гідры», і пачынае сваё расследаванне разам з Наташай Раманаф (Скарлет Ёхансан) — Чорнай Удавой. Яны высвятляюць, што «Гідра» рыхтуе спецыяльную аперацыю па знішчэнні двух мільёнаў людзей.
Другая стужка кінематаграфічнага сусвету студыі *Marvel*, стваральніцы коміксаў пра супергерояў, дзе сюжэт прысвечаны асабістай гісторыі Стывена Роджарса. Падзеі адбываюцца пасля сумеснай працы супергерояў у фільме «Мсціўцы» (2012). І хоць стужка доўжыцца больш за дзве гадзіны, сюжэт трымае ў напружанні ўвесь час. Нарэшце сцэнарысты пастараліся раскрыць асобу Капітана Амерыкі, які дагэтуль губляўся за больш абаяльнымі супергероямі. Прысутнічаюць і традыцыйныя для жанру відовішчныя бойкі.

**Настасся Уласава**



# Што супольнага ў нямецкіх метро і ўльтрас?

Карэспандэнт «Нашай Нівы» дзеліцца ўражаннямі ад наведвання матча другой нямецкай Бундэслігі.

Пры ўваходзе ў берлінскае метро няма турнікетаў і цётачак, што правяраюць твае жэтончыкі-талончыкі. Вольна ідзеш на пляцоўку, сядаеш у патрэбны цягнік. Усе разлічана на тваё сумленне. Калі ж падмануў, то будзь ласкавы заплаціць вялізны штраф.

Тое самае ў Германіі і з футбольнымі ўльтрас. Адносіны з імі дзяржава будуе на тым самым правіле ўзаемадаверу.

Так, і ў Германіі, як і ў Беларусі, у асобе фаната многія найперш бачаць праваапарушальніка, чалавека, які шмат п'е піва, хоча пабіцца і запусціць на стадыёне «польскую» піратэхніку. Не без гэтага. Аднак прэвентыўна ніхто не будзе затрымліваць ультрас перад гульнёй, трымаць паўдня ў пастарунку і весці на стадыён у спецназаўскім акружэнні. Хоць міліцыя — вось яна, побач.

Але так было не заўсёды...




Без шаліка на «Уніян» не ходзяць.

### Фан-праекты

Праблемай гвалту ў фанацкім асяроддзі немцы затурбаваліся яшчэ ў 1980-х, у дзень матчаў простым грамадзянам стала небяспечна нават выходзіць на вуліцы гарадоў, бо існавала вялікая рызыка трапіць пад раздачу. Апошняй кропляй была гульня ў Кубку еўрапейскіх чэмпіёнаў паміж дрэздэнскім «Дынама» і югаслаўскай «Црвеной Звездай» у 1991-м. Пасля таго, як балканцы забілі другі мяч, на трыбунах пачалося сапраўднае бясчынства. Завязаліся бойкі, якія прадоўжыліся ў горадзе, на газон паляцелі забароненыя прадметы. Суддзям давялося спыніць гульню. А дрэздэнскае «Дынама» атрымала двухгадовую міжнародную дыскваліфікацыю.

Тады група студэнтаў сацыялогіі з Брэмена прапанавала дзяржаве стварыць інстытут для супрацоўніцтва з ультрас. Так узніклі «фан-праекты», сёння па ўсёй Германіі іх ужо налічваецца 56 адзінак.

Хоць назва «фан-праект» даволі пафасная, найчасцей там працуе адзін-два чалавекі. Аксэль Паніка адказвае за фанатаў берлінскага «Уніяна». Гэта цікавы клуб з усходняй часткі нямецкай сталіцы, ён ніколі не гуляў у першай Бундэслізе, але мае армію адданых фанатаў, якія па першым заклiку каманды гатовыя ахвяраваць і грашыма, і вольным часам (напрыклад, на суботнік па добраўпарадкаванні стадыёна). Фанаты ўжо ратавалі клуб ад банкруцтва. Сярод фанаў каманды — журналіст Інга Петц, вялікі сябра Беларусі, аўтар кніг пра нашу краіну.

### Не вертухай, а роўны

«Убачыць у фанаце чалавека», — так тлумачыць прынцып сваёй працы сп.Аксэль. Сам сябе ён называе «сацыяльным педагогам». «Калі ўльтрас убачаць, што стары чалавек, кшталту мяне, спрабуе ім навязаць свае погляды, грузіць іх, то яны ніколі не пойдуць на супрацоўніцтва, з кожным трэба размаўляць як роўны з роўным».




Паліцыя заўсёды дзесьці побач, але не ўмешваецца.

Калі казаць простымі словамі, то кіраўнікі «фан-праектаў» мусяць шчыльна працаваць з ультрас пэўнага клуба, жыць іх жыццём, ведаць праблемы, падказаць, калі ў гэтым ёсць патрэба. Працаваць знутры, але не кантраляваць. «Мы нікога не прымушаем працаваць з намі, усё добраахвотна». Да такога «куратара» любы з фансектара можа падысці і з сямейнай праблемай, і «траблам» ў вучобе.

Вядома, ёсць тыя, што адмаўляюцца ад супрацоўніцтва. Але большасць ультрас пазітыўна ставіцца да такога чалавека ў сваім асяроддзі. За дзень да гульні Паніка сядзеў у бары «Уніяна», прыязна вітаўся з лідарамі ультрас, якія распытвалі план да заўтрашняй сустрэчы з «Котбусам». Ён не ўспрымаецца як «вертухай», а як чалавек, што можа дапамагчы ў нейкай жыццёвай сітуацыі. Да каго яшчэ звярнуцца, калі фанату, напрыклад, забаранілі ўваход на стадыён? А такі, як Аксэль Паніка, дапаможа.




У перапынках пра гульню расказваць вось такія вядучыя.

### Прыклад падтрымкі

Котбус — нямецкі горад на мяжы з Польшчай. Насельніцтва — дарэчы, частку з із складаюць славяне-лужычане крыху менш за 100 тысяч чалавек. Дзесьці як у нашым Маладзечне. І да сталіцы дабіраца прыкладна столькі ж. Да Берліна з Котбуса 80 хвілін рэгіянальнымі цягнікамі. У дзень гульні вагоны запаланяюць фанаты, усе ў чырвона-белай атрыбутыцы. Піць піва ў вагонах ніхто не забараняе, чым ультрас паспяхова карыстаюцца. Двое паліцэйскіх час ад часу праходзяць па вагоне, але заўваг не робяць. Ніхто ж не парушае закон.

З Котбуса ў Берлін у будзень на матч сваёй каманды выпраўляецца 2 тысячы чалавек! Гэта, між іншым, сярэдняя наведвальнасць матча беларускай вышэйшай лігі, з гаспадарамі і гасцямі разам узятымі. Пры тым, што котбуская каманда «Энэргі» займае ўпэўнена апошняе месца ў другой Бундэслізе і шанцаў на выратаванне амаль не мае. Нам такой падтрымцы — вучыцца, вучыцца, вучыцца.

### Заўзеюць стоячы

Цікавая асаблівасць хатняй арэны «Уніяна» «Альтэ Форстэрэй»: толькі адна з чатырох трыбун мае ўтульныя крэслы. Астатнія тры — бетонныя глыбы, стаячыя месцы. «Я жыў у паўночнай Англіі, хадзіў на матчы «Сандэрленда», — расказвае Марк Уілсан, які стварае англамоўны сайт «Уніяна». — Але ў Англіі забаранілі стаяць падчас гульні. Тут жа атмасфера неверагодная».

Паліцэйскія, як патлумачылі нам ва ўчастку №63 Берліна, дзеляць матчы на тры ўзроўні бяспекі. Гульню паміж «Уніянам» і «Энэргі» аднеслі да другога. Гэта значыць, на ім маглі здарыцца канфлікты. На матчы працавала 250 паліцыянтаў. Немалая лічба, але на трыбунах іх відаць не было зусім. Знаходзіліся дзесьці побач і ў выпадку чаго былі гатовыя імгненна зрэагаваць на сітуацыю. Хаця, калі пасля прапушчаных галоў котбусцы палезлі на загараджальную сетку, ніхто з іх не спяшаўся пачаставаць ультрас «дубінкамі».

На футбол, так ужо атрымалася, ішоў з заплечнікам. Прадчуваў прэтэнзіі ў свой бок, доўгі нагляд. Аднак апынуўся на трыбуне праз пару хвілін, зусім без прамацванняў розных частак цела. Што таксама дадавала пазітыву.

У выніку — быў аншлаг. На гульню, у якой не ставілася сур'ёзных турнірных задач («Уніян» ідзе на восьмым месцы ў табліцы) прыйшла 21 тысяча гледачоў. І не сказаць, што каманды дэманстравалі фантастычна прыгожы футбол. На маю думку, наўрад ці «Уніян» змог бы трапіць у першую шасцёрку беларускага чэмпіянату.

Але любоў да сваёй каманды тут прышчэпліваюць яшчэ ў раннім дзяцінстве. У фан-шопе клубаў можна знайсці прадукцыю з эмблемай клуба нават для немаўлят. Здзівіла вялікая колькасць інвалідаў, якіх зусім не пабачыш на нашых стадыёнах. Гульню транслявалі ў жывым эфіры па ТБ, а ў перапынку прыгажунi-журналісткі бралі экспрэс-каментары ва ўдзельнікаў сустрэчы.

«Уніян» перамог — 2:0. Спецназ не трымаў котбусцаў на трыбунах пасля матча. Дамоў усе вярталіся разам. І інцыдэнтаў не было. Узаемадавер — моцная штука.

**Зміцер Панкавец, Берлін — Котбус — Мінск**

## Сцісла

### Бойка фанатаў у Брэсце

Адбылася перад пачаткам гульні мясцовай каманды з «Гомелем». Госці запалілі дымавуху, пасля чаго на іх накінуліся берасцейцы. Спецназаўцы хутка спынілі такія дзеянні.

### Фанаты «Дынама» абураныя

Перад пачаткам сезона футбольны клуб «Дынама» выпусціў плакат з футбалістамі, на другім плане бачныя фанаты. Праўда, не мінскага, а піцерскага «Дынама». У кіраўніцтве паабяцалі такую памылку выправіць.

### Памёр былы хакеіст «Юнацтва» і «Гомеля»

Расейцу Аляксею Кравапускаву было 35 гадоў, ён выхаванец школы маскоўскага ЦСКА. Пагуляў шмат дзе ў свеце, у тым ліку ў Беларусі. Апошнія гады меў сур'ёзныя праблемы са здароўем.

### Саступілі ў тэніс малдаванам

Даўно мінулі тыя часы, калі беларусы праходзілі ў паўфінал тэнісага Кубка Дэвіса. У красавіку нашы майстры ракеткі без шанцаў прайгралі ў Кішынёве Малдове — 1:4.

### Домрачава перамагла ў «Гонцы чэмпіёнаў»

Традыцыйны камерцыйны старт біятланістаў адбыўся ў Маскве. Беларуска ў пары з расейцам Антонам Шыпуліным заняла першае месца. Следам былі французы Дарэн-Абер і Мартэн Фуркад.

ЗП



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Актывіст апазіцыі Павел Вінаградаў выйшаў на волю пасля 25 сутак арышту на Акрэсціна. На фота: яго сустракае жонка Святлана.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Стакгольме і Эрэбру на мінулым тыдні прайшлі Дні культуры Беларусі ў Швецыі. Нашу краіну ў Скандынавіі прадстаўлялі пісьменнік Уладзімір Арлоў, журналіст Андрэй Пачобут, спявак Зміцер Вайцюшкевіч, фатограф «НН» Сяргей Гудзілін, які прэзентаваў свой праект аб забароненых музыках. На фота: Зміцер Вайцюшкевіч ладзіць канцэрт для беларусаў Стакгольма.**



**Зборная Новай Зеландыі па рэгбі (самы папулярны ў краіне спорт) выконвае рытуальны танец народа маоры хака пасля прынцыповай перамогі над англічанамі.**



**Расейка фатаграфуецца з сапраўднымі звярамі. Як у казцы!**



## Анекдоты і жарты

* * *

Дарагая рэдакцыя! Дзякуй вам за рэцэпт. Авакада мы замянілі адварной бульбай, а крэветкі — падсмажаным салам, але ў цэлым ваш рэцэпт салаты з авакада і крэветкамі нам вельмі спадабаўся.

* * *

Адна дзяўчынка так шмат чытала, што зусім развучылася фатаграфаваць сябе ў люстэрку.

* * *

Валуева спыталі, колькі ён выціскае правай. «Ну, калі з бярозы — літраў пяць за раз!» — усміхнуўся Мікалай.

* * *

Пабачыўшы лозунгі «Верым у Пуціна», патрыярх крыху разгубіўся.

* * *

Сяргей Бязрукаў захварэў, таму прэс-канферэнцыя Януковіча ў мінулую пятніцу не адбылася.

* * *

— Ведаеш, колькі доўжацца суткі на Плутоне? 152 гадзіны!

— Амаль як панядзелак на Зямлі.

* * *

— Дзе ты была?

— Бегала.

— А чаму нічога не напісала ў твітар, не зачэкінілася і фота ног у красоўках не выклала ў Інстаграм?

## «НН» сто гадоў з вамі

**Дзісенскі павет.** Канавал з Міршчыны паехаў лягчаць жарабкоў і забраўся аж пад Новы Пагост. Прымецілі, што конь ягоны адзін ходзіць па полі, а канавала знайшлі карчком у студні. Наглая смерць... Асталося дзевяцёра дзяцей. А жыла сямейка толькі з бацькавага заработку. Кажуць, што канавалы дужа не любілі, што Мікола Баран далёка ходзіць і адбірае ў іх хлеб. Знайшлі яны подлага чалавека, які і пагадзіўся ўтапіць бедака.

**«НН». №15. 1914.**

**«Пакуты Хрыстовы».** Глядзець ці не глядзець? Гэты фільм не агітка. У ім, як у Святым Пісанні, нават перакананы атэіст знойдзе нешта для сябе, нешта такое, што закранае і застаецца ў душы назаўжды. І глядзець яго, безумоўна, варта хоць бы дзеля тае шчырасці, з якой ён здымаўся. Ствараючы яго, рэжысёр дзячыў Богу. Праўда, абраў ён для гэтага надзвычай арыгінальную форму – уласнаручна ўкрыжаваў Хрыста.

**«НН». №14. 2004.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 08.04.2014.
Замова №1438.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14014